
„Антракт” без перапынку→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Музеі без межаў→8

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 49 (2951) Год LVII | Беласток, 2 снежня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# З няпраўдай у вяках вядуць паэты... бой





Сяргей ЧЫГРЫН

**25 жніўня беларускаму паэту, драматургу, перакладчыку Петрусю Макалю з Крушынянаў споўнілася б 80 гадоў.**

Прыгадваючы паэта, успомнілася мне позняя восень 1980 года, калі я, студэнт-першакурснік Белдзяржуніверсітэта, неяк асмеліўся занесці падборку вершаў у рэдакцыю часопіса „Маладосць”. Дужа мне хацелася хоць адзін раз надрукавацца ў папулярным тады выданні. У аддзеле паэзіі і прозы, у маленькім пакойчыку, сядзелі Уладзімір Дамашэвіч і Пятрусь Макаль. Я ўпершыню ўбачыў пісьменнікаў, кнігі якіх чытаў раней. Яны сустрэлі мяне даволі шчыра і адразу запыталі, адкуль я родам.

— Са Слоніма, — адказаў я.

— А-а, наш заходнік! — усміхнуліся пісьменнікі.

Пятрусь Макаль узяў мае вершы, уважліва прачытаў, выбраў некалькі лепшых і адразу сказаў, у якім нумары „Маладосці” яны будуць апублікаваны.

Я развітаўся, але неяк не верылася, што вершы з'явяцца ў часопісе.

Прайшло некалькі месяцаў — і сапраўды, першая падборка маіх вершаў з'явілася ў „Маладосці”. З'явілася менавіта тады, калі сказаў Пятрусь Міхайлавіч. Ён не падмануў.

Пятрусь Макаль нарадзіўся 25 жніўня 1932 года ў вёсцы Крушыняны на Беласточчыне ў сялянскай сям'і. Бацькі Міхаіл і Людміла Макалі мелі кавалак зямлі. Але пасля 1939 года, калі прыйшлі саветы, бацька перайшоў працаваць фінагентам у Крушынянскі сельсавет, бо прыватную зямлю ў яго забралі. Праз пяць гадоў Міхаіл Макаль з сям'ёй пераязджае ў Саратаўскую губерню. Але радавацца не было чаму. У 1946 годзе Міхаіла Макаля рэпрэсіруюць і высылаюць у Комі АССР, а жонка з сынам вяртаюцца ў Беларусь на Гродзеншчыну. Пятрусь вучыцца ў школе, пасля заканчэння якой паступае ў Гродзенскі будаўнічы тэхнікум. Але тэхнікум пераводзяць у Магілёў і Пятрусь Макаль, правучыўшыся два гады, паступае ў Гродзенскі педінстытут.

Пасля заканчэння інстытута наш зямляк працуе літкансультантам у газеце „Гродзенская праўда”, дзе ў 1949 годзе друкуе свой першы верш.

Калі Петрусю Макалю споўнілася дваццаць тры гады, выходзіць у Мінску яго першы паэтычны зборнік „Першы след”. Крытыка адразу заўважыла дэбют маладога паэта. У друку з'явіліся каля дзесяці рэцэнзій на яго кнігу. Назвы рэцэнзій гаварылі аб даволі ўдалым дэбюце: „Крепнущий голос” (часопіс „Советская Отчизна”), „Выпрабаванне вытрымана” („ЛіМ”), „Малады паэтычны голас” („Гродзенская праўда”), „Маладосць — гэта пошукі” (часопіс „Беларусь”) і іншыя.

Другі і трэці зборнікі нашага земляка „Вятрам насустрач” (1958) і „Вечны агонь” (1960) выявілі зацікаўленасць філасофскім асэнсаваннем сучаснасці, гісторыка-рэвалюцыйнай і маральна-этычнай тэмай. І ўсё ж скачком у развіцці паэта, словам яго сталасці сталі кнігі вершаў „Круглы стол” (1964) і „Акно” (1967).

Пасля Гродна Пятрусь Макаль пераязджае ў Мінск. Вучыцца ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Спачатку працуе ў „ЛіМе”, затым пэўны час быў рэдактарам па эстрадным рэпертуары Міністэрства культуры Беларусі, намочнікам галоўнага рэжысёра па рэпертуары ў Тэатры юнага гледача, старшым рэдактарам выдавецтва „Мастацкая літаратура” і рэдактарам аддзела паэзіі ў часопісе „Маладосць”.

Але дзе б ні працаваў Пятрусь Макаль, яго ніколі не пакідала паэзія. „Ён быў паэтам, які востра і балюча адчуваў жыццё, чуйна і імгненна выбухаў сэрцам на ўсе яго змены і ўзрушэнні”, — пісаў пра яго Казімір Камейша. Паэзія Петруся Макаля заўсёды вызначалася шырынёй погляду на свет, філасафічнасцю, лёгкай ironіяй і сарказмам. Ён быў паэтам-лірыкам, паэтам-грамадзянінам. Сусед па кватэры, журналіст Андрэй Юдчыц, пра Петруся Макаля сказаў так: „Гэта было шчасце — мець такога суседа. Паміж намі не прабегла ніколі нейкая там кошка, нават кацяня не прабегла. Ён жыў па-чалавечы — шчыра, проста, не выстаўляючы сябе. Сумленны паэт, сумленны чалавек, ён жыў па спрадвечнай беларускай прымаўцы: „ніколі не капай яму другому”.

Пятрусь Макаль шмат пісаў пра дзяцей. У гэтых творах ён умела выкарыстоўваў беларускія фальклорныя традыцыі, узбагачаў іх, адкрываў дзецям таямніцы роднага слова, вучыў іх любіць прыроду, бацькоўскую зямлю. Юным чытачам паэт прысвяціў некалькі сваіх кніг. Сярод іх — „Хлопчык будзіць сонца” (1966), „Песня згоды” (1983), „Чарадзейная скарбонка” (1987), „Я гатую абед” (1989). Наш зямляк пісаў казкі, апавяданні і нават загадкі. Іх любілі дзеці, бо яны напісаны вельмі шчыра, а найперш лёгка чытаюцца.

Пятрусь Макаль вельмі любіў тэатр. Сумесна з Артурам Вольскім пісьменнік напісаў драматычныя творы „За лясамі дрымучымі” і „Марынка-крапіўніца”. Былі напісаны і ўласныя п'есы „Адчыніце, казляняткі!”, „Дай вады, калодзеж!”, а таксама лібрэта араторыі „Запрашэнне ў краіну маленства” (музыка Яўгена Глебава).

Пятрусь Макаль пражыў не так і многа — усяго 64 гады. Яго не стала ў канцы жніўня 1996 года.

У Мінску жыве жонка Петруся Макаля **Галіна Іванаўна**. У 1982 годзе яна перанесла інсульт. І ўжо шмат гадоў прыкавана да ложка. Напярэдадні 80-годдзя Петруся Макаля яна пагадзілася адказаць на некалькі маіх пытанняў.

**— Галіна Іванаўна, дзе Вы пазнаёміліся з Петрусём Макалём?**

— Пазнаёміліся мы ў Мінску ў 1962 годзе. Мы сядзелі ў кафэ „Вясна” — я і Лілія Глебава. А Ігар Дабралюбаў — сябра Макаля, хацеў мяне з ім пазнаёміць. Яны прыйшлі таксама ў кафэ, селі за адзін столік, пачалі нешта есці, не памятаю, размаўляць. Макаль быў у светлым касцюме і ў цёмна-сінім гольфе. Пятрусь глядзіць на мяне — вачэй не зводзіць. Я яму кажу: „Не глядзі так, а то ўдавішся”. Пасля гэтай сустрэчы я пайшла на прыпынак і села ў тралейбус № 7. Макаль — за мной, таксама сеў. Ён мне кажа: „Я буду цябе ахоўваць, каб ніхто не ўкраў”. Так ён мяне першы раз правёў. А потым пытаецца: „А чаму ты замуж не выходзіш?”. А я жартам адказваю: „Ніхто не бярэ”. Калі выйшлі з тралейбуса, ён прысеў на калена і кажа: „Будзь маёй жонкай”. І я пагадзілася.

**— І так Вы выйшлі за Макаля замуж?**

— Пасля ён кажа, давай заўтра сустрэнемся каля ЗАГСа на Ленінскім праспекце. Я думала, што ён пажартаваў. Прыязджаю туды, а ён там з Артурам Вольскім, Ігарам Дабралюбавым. Распілі бутэльку шампанскага, распісаліся і стала я яго жонкай. Гэта было 25 студзеня 1962 года.

**— А дзе Вы тады працавалі?**

— Я працавала ў Тэатры юнага гледача ў Мінску, адпрацавала там артысткай 30 гадоў.

**— Пасля таго, як Вы распісаліся, дзе жылі?**

— Мы жылі разам з сям'ёй Анатоля Астрэйкі. Яны займалі два пакоі, а мы — адзін. Жылі недалёка ад Камароўскага рынку. Я там купляла садавіну, агародніну. Асабліва мы любілі з Петрусём трускалкі. Ён нават паэтычныя радкі прыдумаў: *На сняданак ў нашай Галкі / Кожны дзень адны трускалкі.*

**— Ці добра было жыць разам з сям'ёй паэта Анатоля Астрэйкі?**

— Жыць было весела. Там часта бывалі паэты Анатоль Вялюгін, Яўген Крупенька і іншыя. Вясёлых усе хлопцы былі. А ў 1977 годзе ад Саюза пісьменнікаў з кватэрай нам дапамог Іван Шамякін. Так мы атрымалі трохпакаёвую кватэру, дзе я жыву з сынам Славікам цяпер. Я шмат гадоў амаль прыкавана да ложка. Сын Славік прайшоў Афганістан, у яго цяпер таксама праблемы з нагамі. Ён, дарэчы, некалі друкаваўся, выдаў нават невялікую кніжачку вершаў. Але Славік не такі таленавіты, якім быў яго бацька Пятрусь Макаль.

**— З кім сябраваў Пятрусь Макаль?**

— Сяброў у яго было шмат. Ён быў кампанейскі хлопец, вясёлы, меў вялікі гумар, жарты любіў. Мне здаецца ён сябраваў з усімі. У нашай кватэры былі Матукоўскі, Шамякін, Быкаў, ды ўсіх не пералічыць.

**— Аб чым ён гутарыў з Васілём Быкавым?**

— Яны заўсёды размаўлялі пра беларускую літаратуру, пра пісьменнікаў. Часта ўспаміналі Гродна, сваю маладосць. Там Пятрусь вучыўся ў педінстытуце, а Васіль Быкаў у Гродне жыў, у іх былі агульныя знаёмыя. Калі выйшлі з друку яго аповесці „Сотнікаў” і „Абеліск”, ён нам іх адразу падараваў з аўтографам. Аднойчы тэлефануе Васіль, я падняла трубку, а ён пытаецца, ці прачытала я аповесці. „Прачытала, — кажу, — вельмі добра напісаныя творы. Па іх можна паставіць мастацкія фільмы...”. Пачала расказваць Быкаву сваё бачанне гэтых фільмаў. А Пятрусь як пачуў, як стаў на мяне сварыцца, маўляў, ты каго вучыш, як пісаць і што пісаць. Гэта ж — геніяльны празаік.

**— Ці даваў Вам чытаць свае вершы Пятрусь Макаль?**

— Вядома ж. Я была першым слухачом і чытачом іх. Казала часам свае заўвагі, ён слухаў і толькі ўсміхаўся. Пісаў ён не толькі вершы, але і п'есы для дзяцей. Наш тэатр іх ставіў і ў многіх спектаклях, пастаўленых па п'есах Петруся, я іграла галоўныя ролі.

**— Галіна Іванаўна, Вы шмат гадоў хварэеце. Ці наведвалі Вас хто з Міністэрства культуры, пісьменнікі, рэжысёры тэатраў?**

— Ды не. Ніхто з двух Саюзаў пісьменнікаў, ані з Міністэрства культуры Беларусі ніколі не наведваў. Яшчэ 10 гадоў таму абяцалі ўстанавіць мемарыяльную шыльду на доме, дзе жыў Пятрусь Макаль. Так яе і не ўстанавілі, мне сказалі: там чарга на шыльды. Гэта чарга цягнецца ўжо 10 гадоў.





# Зямля і воля

„Зямля не зменіць і не здрадзіць, / Зямля паможа і дарадзіць, /Зямля дасць волі, дасць і сілы, /Зямля паслужыць да магілы, /Зямля дзяцей тваіх не кіне, / **Зямля — аснова ўсёй айчыне**".

Так, у паэме „Новая зямля", развагамі Міхала апісаў прагу беларуса да сваёй зямелькі беларускі пясняр Якуб Колас. Ён — патрыёт сваёй радзімы і чалавек, які добра ведаў не толькі яе гісторыю, але і штодзённы быт беларуса, заўсёды акцэнтаваў увагу на пытанні роднай зямелькі.

Ды не толькі ён, але і кожны патрыёт сваёй Бацькаўшчыны. Спрадвеку, у кожнай краіне вельмі ўважліва ставіліся да пытання прыватнай уласнасці на зямлю. Прыкладам, Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, які дзейнічаў да XIX стагоддзя, забараняў продаж нашай зямлі іншаземцам. Людзі з дзяржаўным мысленнем, якія тады пісалі законы, добра разумелі, якое вялікае значэнне мае для ўзмацнення дзяржавы і яе незалежнасці пытанне ўласнасці на зямлю. І, зразумела, аддавалі права набываць, валодаць, распараджацца і карыстацца зямлёй толькі жыхарам сваёй краіны. Права прадаваць зямлю ўласнікі таксама мелі, але маглі прадаць яе толькі сваім землякам.

Рабілі так не толькі беларусы. Рабілі так усе, хто думаў пра будучыню сваёй краіны, пра нашчадкаў, пра росквіт у будучых часах тых ідэй і каштоўнасцей, якім прысвячалася жыццё патрыёта. І калі ў іншых сферах, дзеля дасягнення нейкага кампрамісу дазвалялася маніпуляваць паняткамі, то ў пытаннях з зямлёй жарты не прыжываліся. Зямля аснова ўсіх асноў. З маленькіх надзелаў зямелькі складаецца ўся тая зямля, якая называецца Айчынай. Каму належаць тыя маленькія надзелы, таму, па вялікім рахунку, належыць і вялікая зямля Айчыны.

Здаецца, гэта аксіёма, якая не патрабуе доказаў. Здаецца, гэта ведае кожны. Таму і жахнула многіх беларусаў паведамленне пра тое, што ў нас, у Беларусі, усё будзе рабіцца з дакладнасцю наадварот. „Інтэрфакс" перадаў, што беларускую зямлю Міністэрства эканомікі прапануе дазволіць прадаваць у прыватную ўласнасць менавіта замежным інвестарам. Цытата: „У 2013 годзе прапануецца вырашыць пытанне прадстаўлення інвестарам зямельных участкаў у прыватную ўласнасць", — заявіў міністр эканомікі Мікалай Снапкоў, выступаючы ў чацвер у Мінску на пленарным пасяджэнні Кансультатыўнай рады па замежных інвестыцыях пры ўрадзе Беларусі.

На інтэрнэтных форумах з'явіліся развагі наступнага зместу: „Грамадзяне Беларусі не маюць права ўласнай маёмасці на зямлю, нават калі жывуць на гэтай зямлі. Зямля ў нас нібыта „народная". А зараз, я так разумею, гэтую самую зямлю могуць наўпрост прадаць каму заўгодна, у прыватную маёмасць, акрамя беларусаў. Вынікі рабіце самі, бо мае далейшыя разважанні парушаюць правілы форумаў".

Хто ж яе купіць, нашу беларускую зямельку? Думаю ў спісе тых інвестараў небагата будзе ангельцаў або фінаў. Перакананы, што дастанецца яна пераважна рускім, бо яны, нашы „старэйшыя браты", пры патрэбе жывуць нібыта з намі ў адной Беларуска-Расійскай краіне. А пры другой патрэбе выступаюць як замежнікі. Могуць і так, і так. І пакуль нам, беларусам, зямля ў прыватную ўласнасць недаступная, могуць спакойна расцягваць яе ў якасці замежных інвестараў.

Што ж, гэтага трэба было і чакаць. Усё да гэтага ішло. Было-было ды скончылася. Калі ж беларус захоча набыць зямлю ў прыватную ўласнасць, то яму трэба як мінімум з'ехаць з Беларусі. Пашукаць чужыну, дзе яму як прыезджаму дазволяць набыць кавалачак ужо чужой зямлі. Толькі дзе яе шукаць, тую чужыну? І дзе ўзяць сродкі на чужацкую зямлю?

Абяцаная некалі бальшавікамі „зямля і воля" так і не дайшла да жыхароў сінявокай. На іх вачах Міністэрства эканомікі рыхтуе аддаць беларускую зямельку замежным братнім інвестарам, пад гучныя радкі песняра, якія па сённяшні дзень маленькія беларусы яшчэ вывучаць у школках:

„А дзе ж той выхад? дзе збавенне /З няволі цяжкай, з палонення?/ Адзін ён ёсць: зямля, зямля,/ Свой пэўны кут, свая ралля:/ То — наймацнейшая аснова/ І жыцця першая ўмова".

**Віктар САЗОНАЎ**



# У Беларусі ўсё о'кей!

Чалавечы розум незвычайна творчы. З нічога патрапіць зрабіць штосьці.

Найбольш выразна паказвае гэта асоба нейкага А., з якім я меў калісьці няшчасце працаваць. А. гэта эгацэнтрычны манюка або абманлівы эгацэнтрык. Дарэчы, усё роўна з якога боку на яго глядзець, вынік заўжды такі самы. Цьфу! Незалежна ад таго, што А. ужо даўно перакрочыў сваю „ценявую рысу", надалей займае яго ўласная краса. Хто ведае, дарэчы, можа таму, што дабіваецца да пяцідзесяці, безупынна сузірае свой твар і ўсю фігуру — у прынагодных люстрах: у адлюстраванні ў крамнай шыбы, паліраванай бляхі, у цяні пакладзеным на сцяне дома сонцам; не расстаецца таксама з малым люстэрачкам, якое хавае ва ўнутранай кішэньцы летніка. Гэтая нарцыстычная рыса тут маргінальная, тым не менш шмат кажа пра самога А.

А. вырабляе падман амаль аўтаматычна. Узнікае ён у яго дзесьці на абмежках яго індывідуальнасці, у дзічы нейронаў, у вестэрнавай канвенцыі разбуяных эмоцый і раз'юшаных комплексаў, дзе адзіным правам з'яўляецца шэрыф — раздзьмутае, хваравіта раздзьмутае эга А. — не меншы махляр, чым уся рэшта характаралагічнай чэрні, на якую складваецца ўся яго індывідуальнасць: хітрасць родам з падляшскай вёскі, стараславянская зайздрасць, культурнае невуцтва непаліраванае нават вышэйшай адукацыяй, працяцкая дурнота і ўпартая жывучасць паспалітага пырніку. І можа таму паспалітага, што пазначанага генетычнай, проста неўтаймаванай жывучасцю.

Падманы і крутельствы, якіх дапускаўся А., абапіраліся на простую тэхніку: апаганіць кожнага, каб яго прынізіць, а гэтым самым падняць ва ўласных вачах самога сябе. На падставе частковых фактаў будаваў свае жахлівыя канфабуляцыйныя канструкцыі з непрыязнай, адкідваючай архітэктурай паклёпу, зласлівасці, звычайнага цынізму. Звычайна рабіў гэта ў адносінах да непрысутных. Безрэфлексіўна глуміў кожнага, хто не можа бараніцца. Аднойчы перакрочыў усе межы прыстойнасці, абвінавачваючы нашага калегу ў крадзяжы. Прыперты да муру ўзлаванымі гэтым калегамі па рабоце, раптам пад іх пераможнай упартасцю хутка скрануў галаву сваёй мане, прымірэнча махнуўшы рукою. Аднак у яго хітранькіх усюдыісных вочках я мог убачыць ненавісную абразу наконт неабгрунтаванага (на яго думку) саюза калег, даказваючых непрыстойнасці ягонага паклёпу. Ведаю, што ўступіў перад большасцю, а не перад фактамі, да канца перакананы аб рацыі ўласнай задумкі і дурноце сваіх працаўнікаў.

Шматлікія змоўніцкія тэорыі, аб якіх чуем штодзённа, аб жыдоўскіх закалотах, аб масонскіх круцельствах, аб расстрыгах і інтрыгах, падказваюць нам дадумвацца, што такіх людзей як А. сярод нас жыве нямала. Пароўну вяшчаюць пра іх і адукаваныя, і недавучкі. Аднак людзі адукаваныя часцей мянцяць лухту, чым ім здаецца — можа з рацыі перакананія, што ўяўленчы апарат, які яны займелі, раўняецца з іхнімі ведамі. Дадам, што з ведамі набытымі без запалу, павярхоўнымі, не паглыбленымі самасвядомай рэфлексіяй, ані інтэлектуальнай пільнасцю недаспаных над кніжкамі гадзін, ані цікаўнасцю арганаўтаў у паходзе па залатое руно адкрыцця. Карацей, ведамі замуленымі як русло лянівай ракі: лянотай, паўторнай пазнаўчай непісьменнасцю і ганарлівасцю дыпламаванага тэрміта перакананага, што архітэктура тэрмітніка не з'яўляецца вынiковай мільёнаў гадоў жорсткіх спроб і памылак, а вынікам генетычнага генія малога хіцінавага чарапка.

На жаль, такіх асобеняў, як апісаны мною А., паміж намі без ліку. Цяжка абараняцца ад іх. Цяжка іх выкараніць, бо, як я вышэй сказаў, характарызуе іх жывучасць пырніку. Можна іх сустрэць у аўтобусе, на працы, сярод суседзяў, знаёмых і... кіруючых.

Як інфармуе тэлеканал „Белсат", 12 лістапада ў час сустрэчы са студэнтамі Беларускага эканамічнага ўніверсітэта Аляксандра Лукашэнку турбаваў стан дэмакратыі. Паводле яго інфармацыі, у дэмакратычных краінах штодзень людзей „паліваюць вадой і атакуюць слёзатачывым газам". Невядома, як адрэагавалі на яго словы беларускія студэнты. У Беларусі ж ніхто нікога не палівае вадой і не частуе слёзатачывым газам. У Беларусі ўсё о'кей.

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# „TUczyTAMy" з нашымі



Фрагменты дзевяноста кніжак у сарака месцах Беластока прачыталі м.інш. акцёры выпадковым слухачам у рамках трохдзённай акцыі „TUczyTAMy", сарганізаванай Драмтэатрам імя Аляксандра Вянгеркі. Гэта пры нагодзе літаратурнага фестывалю „**Przeczytać Białystok**", на які складваецца таксама акцыя згуртавання „**Fabryka Bestsellerów**" пад лозунгам „**Wszędy literackie**". Кніжкі чыталі ў розных месцах: у барах, на басейне, на скаладроме, у музеях, гандлёвых галерэях, на лядовым катку ці ў кветкавым магазіне. Фестывалю спадарожнічаў кірмаш кніжак ды сустрэчы з аўтарамі. Арганізатары ў фестывальным буклеце змясцілі спысылку: „Кніга з'яўляецца найлепшым сябрам чалавека. Можна яе прачытаць усюды. Рана, апоўдні, ноччу. Перад фільмам, пасля абеду і замест пакупак. З'яўляецца добрай прычынай для прэжыцця чарговага дня. У Нью-Йорку. У Капстадзе. У Беластоку". Фактычна па-сяброўску адосяцца да сваіх чытачоў „нашы" пісьменнікі, з якімі спатканне адбылося пры нагодзе фестывалю ў тэатры: „тамашнім" Віктарам Сазонавым з Гродна і „тутэйшым" — Міхалам Андрасюком з Гайнаўкі. Вядучы яе старшыня Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча — Беларусь Марцін Рэмбач уводзіў:

— Што лучыць Віктара Сазонава і Міхала Андрасюка? Яны сваіх герояў проста любяць і любяць людзей, для якіх пішуць.

Дадаў:

— У „**Белым кані**" Андрасюка, „**Wagonie drugiej klasy**" ці „**Notatkach kontrabandzisty**" Сазонава маем дачыненне з чымсьці, што калісь было вызначальнікам мастацтва — працэсам універсалізацыі людскага досведу.

Міхал Андрасюк, лаўрэат мінулагодняй літаратурнай прэміі прэзідэнта Беластока, не хаваў:

— Большасць таго, што напішу — непланавана. Ніколі не ведаю, калі і як закончу. Мае героі эвалюцыянуюць, нават не заўсёды так як бы я хацеў у задуме.

Аб выдавецкім рынку ўспомніў спрэчна:

— Сёння найлепш прадаюцца жаночыя кніжкі. Гэта штосьці кшталтам літаратурнага дыска-пола. Можа тэлесерыялы на паперы маюць будучыню, ды гэта не мая дзялянка.

У сваю чаргу Віктар Сазонаў (супрацоўнік „Нівы") успамінаў м.інш.:

— Апісваю сваю версію канкрэтных падзей. Час ад часу бачу камедыю там, дзе іншыя прыкмячаюць трагедыю. Я лічу, што мастацтва гэта індывідуальны погляд кожнага аўтара.

Спаслаўся ён таксама на свае апавяданні, у якіх апісвае сустрэчы з кантрабандыстамі на польска-беларускай мяжы:

— Пісаў я аб людзях, але толькі аб тых, якіх палюбіў. Не апісваю тых, якіх не люблю, якія парушаюць закон, знішчаюць цягнікі ці прадаюць іншых у чарзе на мяжы, каб іх раней прапусцілі. Гэтыя кантрабандысты, аб якіх я пісаў у дзевяностыя гады, гэта былі рамантыкі. Ехалі каб зарабіць, але і пры нагодзе каб пабачыць свет.

Сустрэчы з аўтарамі адбываліся таксама ў спецыяльным аўтобусе, курсуючым па Беластоку — „агурку". У палове запоўнілі яго аматары літаратуры ў час падарожжа з Міхалам Андрасюком дзень пасля сустрэчы ў тэатры. Пісьменнік расказваў аб сваім юнацкім візіце ў Беластоку і першым непаразуменні, чаму выпадковыя прахожыя кінулі яму, што ён „рускі", пачуўшы, што з калегамі размаўляе па-свойму. Расказваў таксама аб першай сустрэчы „з іншай Беларуссю, дзяржаўна-чыноўніцкай", калі шмат гадоў пасля мусіў у беларускім консульстве старацца за візу ў гэтую дзяржаву, адлеглую ледзь кіламетр ад яго месца нараджэння.

Хаця мінула ўжо крыху часу ад выдання апошніх кніжак абодвух „нашых" аўтараў, варта да іх зноў вяртацца. Сутыкненне з добрам там схаваным — ніколі даволі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# 15 гадоў з «Антрактам»

15 гадоў у жыцці чалавека і яго прафесійнай працы гэта нядоўгі перыяд, але праз гэты час можна многа добрага зрабіць у карысць высакароднай справы. Калі 15 гадоў таму Альжбета Фіёнік паступіла на працу ў Бельскі дом культуры на пасаду інструктара па тэатральнай дзейнасці, узнікла задума заснаваць тэатральны калектыў. Новая працаўніца гэтую задуму здзейсніла. Многа працы выканала яна дзеля поспехаў, якіх за паўтара дзесятка гадоў дабіўся тэатральны калектыў «Антракт». Праз бельскі тэатральны калектыў правінулася каля 150 асоб. Мяняліся яны, бо калі школьнікі станавіліся студэнтамі, іх месца займалі новыя вучні. Найменшыя дзеткі выступалі з кароценькімі пастаноўкамі, старэйшыя вучні рыхтавалі больш сур'ёзныя прадстаўленні. Цэлы час у рэпертуары «Антракта» беларускія абрады, песні і танцы.

На святкаванне 15-годдзя дзейнасці тэатральнага калектыву «Антракт», якое адбылося 19 лістапада ў Бельскім доме культуры ў час цыклічнага мерапрыемства «Тэатральныя запусты», апрача цяперашніх яго членаў, у дом культуры прыйшлі таксама маладыя людзі, якія ў мінулым выступалі ў бельскім тэатральным калектыве, сямейнікі вучняў заангажаваных у тэатральную дзейнасць і бяльшчане, якім цікава было паглядзець юбілейны выступ. Прыбылі таксама дырэктар БДК Сяргей Лукашук (пісаў я раней, што з пачаткам лістапада выходзіць ён на пенсію, але бельскія ўлады запрапанавалі яму выконваць абавязкі дырэктара да канца гэтага года), радны Падляшскага сейміка і заадно старшыня БГКТ Ян Сычэўскі і прадстаўнікі бельскіх улад, якія пасля разам з працаўнікамі дома культуры дзякавалі «Антракту» і яго апекуну Альжбеце Фіёнік за 15-гадовую дзейнасць і жадалі поспехаў на будучыню.

— Калі бурмістрам Бельска быў Андрэй Сцепанюк, запрапанаваў мне прыняць на працу асобу, якая займалася б у нашым доме культуры справамі беларускай культуры і я, між іншым, дзеля такіх задач прыняў на работу Альжбету Фіёнік. Заснавала яна тэатральны калектыў «Антракт». Апрача пастаянных тэатральных заняткаў у доме культуры Альжбета ладзіць майстар-класы, у час якіх вучыць дзетак нашым песням, танцам і абрадам. Штогод «Антракт» выступае ў час Спасаўскіх запустаў са жніўнымі абрадамі. Многа сваёй энергіі ўкладвае яна ў арганізаванне тэатральнай дзейнасці ў Бельскім доме культуры і відаць вялікія рэзультаты гэтай працы. Ад яе выйшла ідэя арганізаваць у БДК «Паэтычнае трохгалоссе». Вядзе Альжбета многія беларускія мерапрыемствы і дапамагае ладзіць нашыя імпрэзы, — сказаў дырэктар Сяргей Лукашук.

— Прыйшла я на працу ў Бельскі дом культуры 4 мая 1997 года і адразу дырэктар Сяргей Лукашук запрапанаваў мне падрыхтаваць выступ на Спасаўскія запусты ў жніўні. Я вымушана была хутка сабраць ахвотных выступіць і падрыхтаваць праграму. Музыку да жніўных абрадаў прывезла я з Мінска. Асобы з маёй першай тэатральнай групы выступілі са жніўным абрадам. Гэта яны запачаткавалі дзейнасць калектыву, — заявіла Альжбета Фіёнік.

19 лістапада юбілейнае мерапрыемства вёў журналіст Польскага радыё Беласток Міхась Сцепанюк, які раней займаўся ў «Антракце». Успамінаў ён пра пачаткі дзейнасці калектыву, яго пазнейшую актыўнасць і поспехі. Зараз тэатральны калектыў «Антракт» гэта тры групы, створаныя з дашкольнікаў і наймалодшых вучняў, вучняў падстаўвой школы і моладзі з гімназій і звышгімназічных школ. Апрача тэатральных прадстаўленняў «Антракт» выступаў з веснавымі (рагулькі, Юр'я і сенакосныя), летнімі (найбольш са жніўнымі) і зімовымі абрадамі, прэзентаваў калядкі і прадстаўленні з геродамі, паказваў вясельныя і хрысціянныя абрады. Зараз у тэатральным калектыве ў трох групах займаецца 30 асоб — ад дашкольнікаў да вучняў сярэдніх школ. Займаюцца таксама бельскія дзяўчаты, што вучацца ў Беластоку і дзяўчаты з Гайнаўкі, які прыязджаюць у Бельск на рэпетыцыі і выступы. Доўга можна пералічваць поспехі, якіх дабіўся «Антракт» на аглядах, конкурсах і абрадавых прэзентацыях. Яго члены, апрача выступаў з прадстаўленнямі, часта прымалі ўдзел у дэкламатарскіх конкурсах, у тым ліку ў Конкурсе беларускай паэзіі і прозы «Роднае слова», на якім займалі прызавыя месцы.



Альжбета Фіёнік і яе вучні з «Антракта»

— Самае важнае, калі ў вучняў, што выступаюць з нашымі абрадамі, застанецца пашана да нашых традыцый і мінулага. Нашы дзеткі вучаць таксама сваіх бацькоў любові да фальклору і нашай гісторыі. Калі пры нагодзе нашай супольнай працы ўзмацняецца сувязь паміж дзеткамі, іх бабулямі, яшчэ носьбітамі фальклору і бацькамі, узмацняецца таксама беларуская нацыянальная свядомасць маладога пакалення. Вучні, што выступаюць з нашымі абрадамі, вучацца шанаваць нашую мову і размаўляць на ёй. Юлька Дораш у «Антракце» займалася 10 гадоў і калі паступала ў Тэатральную акадэмію ў Беластоку, дзе зараз вучыцца, не саромелася праспяваць нашу песню, што спадабалася адборачнай камісіі. Першы састаў «Жэмэрвы» стварыўся на аснове членаў «Антракта». Пасля здольная моладзь з тэатральнага калектыву пачынала спяваць у студзіводскім фальклорным калектыве, — расказвала Альжбета Фіёнік. — У абрадавай групе «Антракта» на працягу пятнаццаці гадоў свае тэатральныя здольнасці разгарнула многа асоб, асабліва вылучаліся Мажэна Жменька, Міхась Сцепанюк, Юля Дораш, Жанэта Роля, Тамаш Суліма, Кася Бабулевіч, Кася Філіманюк, Юстына Пагрэбняк, Караліна Ігнацюк, Оля Первой і Кася Нікалаюк. З дэкламацыяй па-беларуску, беларускімі танцамі і песнямі выступаў таксама абдораны тэатральнымі здольнасцямі Себастыян Місюк, які сёння выступіць у прадстаўленні «Сямейныя гісторыі». Зараз ён іграе ў тэатрах Беластока. Ён хоча здабываць вышэйшую тэатральную адукацыю. Тэатральнымі здольнасцямі вылучалася таксама Караліна Грынявіцкая.

Пастаноўка «Сямейныя гісторыі» была самай вялікай часткай юбілейнай праграмы і завяршыла «Тэатральныя запусты». Падрыхтавана яна была на падставе ўспамінаў Юліі Белаказовіч з Відава, ураджэнкі Катлоў (прозвішча па мацi — Кавэрда). Ролі галоўных герояў выконвалі Себастыян Місюк і Марта Зінкевіч з бельскай «тройкі». Марта, пачынаючы з прадшколля, выступала з беларускай дэкламацыяй, а нядаўна, каб разгарнуць тэатральныя здольнасці, стала займацца ў «Антракце». У прадстаўленні выступілі таксама дзяўчаты з «Жэмэрвы» і члены абрадавай групы тэатральнага калектыву. Вучні ігралі вельмі ўдала і відаць было, што пастаноўка зацікавіла сабраных у канцэртнай зале БДК. Раней вучні дэкламавалі творы на польскай і беларускай мовах, а наймалодшая і сярэдняя групы ўдала выступілі з тэатральнымі пастаноўкамі. Асаблівае ўражанне выклікаў выступ фальклорнай групы, якая прадставіла веснавы і летні абрады, нашы песні, танцы і гульні.

— Я цікаўлюся тэатрам і калі паявілася магчымасць займацца ў «Антракце», я пачала хадзіць на тэатральныя заняткі, — сказала Іаанна Марчук, якая выступае, між іншым, з фальклорнай групай. — Я хацела б у будучыні выступаць у тэатры, аднак добра ведаю, што толькі адораныя асобы могуць здзейсніць такія мары.

— Мяне цікавяць беларускія абрады і наш фальклор. Я хацела гуляць у тэатр з равеснікамі. Выступаючы з нашымі абрадамі маю магчымасць знаёміцца з нашай беларускай культурай і размаўляць на сваёй мове, — гаварыла Іаанна Нівінская.

— Мы вельмі добра ўспамінаем выступы ў «Антракце», з якога мы трапілі пасля ў «Жэмэрву». Міла было гуляць у тэатр і выступаць з нашым фальклорам, які мы зараз вывучаем у студзіводскім калектыве. Мы любілі спяваць нашы песні з «Антрактам» і зараз спяваем іх у «Жэмэрве». Цікава было выступаць з абрадамі па розных порах года або з вясельнымі і хрысцінным абрадамі, — сказалі Анна Гуль і Эльвіра Плуг.

Побач дзяўчат наш фальклор вывучаюць таксама хлопцы з Бельска, сярод якіх у час «Тэатральных запустаў» вылучаліся Максім і Ілья — сыны спадарыні Альжбеты Фіёнік. За выступамі сачыла іх трохгадовая сястрычка Таіса.

— Мы любім гуляць у тэатр, нам падабаюцца выступы з нашымі абрадамі, — сказалі Максім і Ілья Фіёнікі.

У канцы мерапрыемства да жонкі, якая адзначала юбілей, з прыгожай кветкай падбег Дарафей Фіёнік.

— Я зараз выконваю працу ў доме культуры згодную з маёй адкукацыяй, якую я здабыла ва Універсітэце культуры ў Мінску, па спецыяльнасці тэатральная рэжысура, а пры гэтым мне пашанцавала, бо я там мела магчымасць займацца ў фальклорным тэатры, вывучаючы народныя песні, танцы і абрады. Зараз мае веды і практыку магу выкарыстаць арганізуючы тэатральную дзейнасць і рыхтуючы вучняў да прэзентацыі абрадавых сцэнак, а таксама магу дапамагаць парадамі мужу Дарафею, які збірае і прэзентуе наш фальклор, — гаварыла Альжбета Фіёнік.

З Дарафеем Фіёнікам спадарыня Альжбета пазнаёмілася, калі ёй было 14 гадоў і прадаўжала гэтае знаёмства ў час вучобы ў Мінску. Яе цяперашні муж тады экстэрнам вучыўся ва Універсітэце культуры ў Мінску на музейнай спецыяльнасці. Пасля спадарыня Альжбета паступіла ў аспірантуру і дарабляла працуючы на першай праграме Беларускага радыё ў Мінску, дзе вяла праграму для моладзі «Падвячорак».

— Тады складана было знайсці працу па маёй прафесіі ў Бельску і я думала нават застацца на пастаяннае жыхарства ў Мінску. Аднак ад Дарка я даведалася, што ў Бельскім доме культуры ёсць вакансія на пасадзе інструктара па тэатральнай дзейнасці і рашылася вярнуцца на радзіму. Можа гэта і Дарак сцягнуў мяне ў Бельск, каб я не засталася жыць у Мінску. Аднак калі я зараз выхоўваю дзетак, то гавару, што мой дактарат, які я перарвала ў Мінску, гэта мой муж і дзеці. Тое, што я цяпер раблю ў доме культуры і дапамагаю рабіць у Студзіводскім музеі, гэта найлепшая справа, якая магла мне трапіцца ў жыцці і я лічу гэта дарам ад Бога. Займаюся ж я ўсім тым, чаму я вучылася ў вышэйшай установе і займаюся яшчэ ж беларускімі справамі ў БДК, — рашуча сказала Альжбета Фіёнік.

## Не старэюць тыя, у каго няма на гэта часу

Так гавораць і пад такім лозунгам ужо пяць гадоў паспяхова дзейнічае Універсітэт трэцяга веку ў Гайнаўцы. Гэтая дынамічная арганізацыя стараецца актывізаваць пажылых людзей — арганізаваць ім вольны час, карыстаць з дасягненняў іншых, рэалізаваць уласныя мерапрыемствы, пашыраць і ўтрымліваць кантакты з падобнымі людзьмі.

— Базай для нашай дзейнасці з'яўляецца Гайнаўскі дом культуры. Наш офіс, — гаворыць старшыня Згуртавання „Універсітэт трэцяга веку" Міраслава Паўлоўская, — знаходзіцца ў будынку філіяла Беластоцкай палітэхнікі. Дзейнасць гайнаўскага УТВ галоўным чынам вядзецца на грамадскіх пачатках. У рамках заняткаў чытаюцца даклады на тэму здароўя, гісторыі, турызму, права з улікам сітуацыі пажылых людзей, а таксама іншых адрасатаў грамадска-палітычнага жыцця. Заняткі вядуцца ў секцыях зацікаўленняў — інфарматычнай, турыстычнай, спартыўнай і іншых. Адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, забавы і т.п. Слухачом УТВ можа стаць кожная асоба, якая выйшла ўжо на пенсію і выявіць ахвоту рэалізаваць статутныя задачы нашага згуртавання. Універсітэту трэцяга веку дапамогу аказваюць многія ўстановы і прыватныя асобы, у тым ліку гарадскія і павятовыя ўлады, Гайнаўскі дом культуры, Гарадская бібліятэка, філіял Беластоцкай палітэхнікі, Белавежскі нацыянальны парк, Музей і асяродак беларускай культуры і іншыя. У чацвер, 8 лістапада, зала Гайнаўскага дома культуры запоўнілася да апошняга месца. А 17-й гадзіне адбылася сустрэча слухачоў універсітэта з хорам „Цаглінкі" са Старога Ляўкова. Пасля канцэрта пры каве і пячэнні вялася размова з харыстамі. Музычны кіраўнік хору Мікалай Мяжэнны расказаў пра рэпертуар, рэпетыцыі і канцэрты (25 у год) калектыву. У ходзе размовы аказалася, што слухачы ўніверсітэта вельмі арганізаваныя людзі і заўзятыя ўдзельнікі ўсіх мерапрыемстваў. Словам, ім няма калі сумаваць, няма калі старэць. Вельмі сардэчныя словы падзякі за творчасць і майстэрства „Цаглінак" выказала старшыня Згуртавання „Універсітэт трэцяга веку" Міраслава Паўлоўская і ўручыла самадзейнікам кош кветак. „Цаглінкі" сардэчна дзякуюць арганізатарам гэтай сустрэчы.

**Віктар БУРА**

## Абнавілі равы

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) дзейнічае гмінная водная суполка „Лазовае" пад старшынствам Станіслава Садоўскага з Тарнопаля. Яна клапоціцца, між іншым, каб равы не зарасталі кустамі, вялікай травой і пустазеллем. Калі трэба, паглыбляюць іх, ачышчаюць ад мулу. Яшчэ яе задача — запрудзіць ваду падчас зацяжнай засухі.

Сёлета праўленне суполкі аднавіла шмат існуючых равоў на лугах каля Тарнопаля ды Лазовага. 19 лістапала г.г. ачысцілі і паглыбілі равы ў вёсцы Новае Ляўкова, між іншым, на г.зв. зялёных угоддзях сялян Ігнацюкоў і Галубоўскіх. Салідна выканаў гэтую работу Павел Барташук з Чыжоў на сваёй землечарпалцы. Каб усё прайшло паспяхова не шкадавалі свайго часу солтыс і аднасяльчане Мікалай Ігнацюк і Міраслаў Галубоўскі.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Паспяховае дзесяцігоддзе




У 1900 годзе на ўскраіне Крынак, пры галоўнай шашы ў Гародню, паставілі новую дзяржаўную лячэбніцу, падрад на пабудову якой узяў гродзенскі мешчанін Навух Ёселевіч Рудэнраўт. Такую інфармацыю можна знайсці у кніжцы гарадзенскага гісторыка Віталя Карнялюка „Крынкі ў 1795-1918 гг.". Раней у згаданым месцы знаходзіўся царскі шпіталь, які ў 1902-1904 гадах называлі сейміковым. У пазнейшым часе стаў ён раённым, паступова пераходзячы ў аддзяленне для ўнутрана і заціжна хворых. Шпітальныя, у большасці драўляныя, царскія будынкі па сённяшні дзень ўпрыгожваюць мясцовы ландшафт, з'яўляючыся нямым сведкам гісторыі мястэчка. Аддалены на 900 метраў ад мяжы з Беларуссю крынскай медыцынскай установе пастаянна пагражала ліквідацыя. Усё ж такі заўсёды знаходзіліся адданыя гэтай важнай справе медыкі, якія не дапускалі да трагічнага завяршэння. Апошнія цёмныя хмары павіслі над векавым шпіталем напрыканцы ХХ стагоддзя. Тады ўсе дзяржаўныя ўстановы медыцынскай апекі падвяргаліся сур'ёзным рэформам, часта не пераносячы выпрабаванняў лёсу. Крынскай лячэбніцы яшчэ раз пашанцавала. Дзякуючы, між іншым, намаганням адданай працаўніцы гэтага шпіталя Крыстыне Каралькевіч згаданы асяродак як адзін з першых у ваяводстве і Польшчы пераварылі ва ўстанову апякунскай медыцыны. Спадарыня Крыстына асабіста вяла адказныя, рэарганізацыйныя работы, рыхтуючыся да іх на спецыяльных менеджарскіх курсах у розных гарадах Польшчы. Пачаткам новага жыцця крынскага медыцынскага асяродка лічыцца 1 красавіка 2002 года. Менавіта тады ўступіла ў сілу пастанова Рады Сакольскага павета аб адкрыцці Самастойнай публічнай медыка-сацыяльнай установы ў Крынках. Яе дырэктарам стала не хто іншы як заслужаная справе Крыстыны Каралькевіч. У красавіку 2000 года пачаўся капітальны рамонт будынка за грошы перададзеныя паветам і гмінай. Рэабілітацыйнае абсталяванне ўстанова атрымала ў рамках Праграмы фінансавай дапамогі ўстановам доўгатэрміновай апекі з пазыкі Сусветнага банка. Паспяховае завяршэнне работ і здача аб'екта ў карыстанне наступіла ўжо 1 студзеня 2001 г.

Сённяшнія ўмовы крынскай медыка-сацыяльнай установы дазваляюць прыняць пад дагляд 38 пацыентаў. Усе падапечныя паходзяць пераважна з Сакольскага павета. Тут яны атрымліваюць якасную, кругласутачную, медыцынсую апеку, рэабілітацыю, кансультацыю псіхолага і лагапеда, а таксама ўдзельнічаюць у тэрапеўтычных занятках. Установа забяспечвае 23 працоўныя месцы. Усе працаўнікі з'яўляюцца жыхарамі Крынак. У першых гадах яе існавання асноўная падтрымка ішла ад заснавальніка, у тым выпадку Павятовага старосты ў Саколцы. Дарадчым органам згаданага цэнтра з'яўляецца гмінная грамадская рада. У сувязі з увядзеннем новага закону аб ахове здароўя кампетэнцыі гэтага органа паменшыліся, але надалей займаецца ён падтрымкай і пасрэдніцтвам у кантактах з павятовай радай.

Цяпер установа дзейнічае дзякуючы дагавору з Народным фондам здароўя. 70 працэнтаў коштаў штодзённага ўтрымання пакрываюць самі пацыенты. Спадарыня Крыстына з удзячнасцю падкрэслівае заслугі неацэнных спонсараў: індывідуальных асоб і арганізацый, у тым ліку Надлясніцтва Крынкі і пякарні „Яскулка".

— Калі апынёмся ў складанай сітуацыі, — кажа дырэктар, — яны заўсёды прыходзяць з фінансавай і маральнай дапамогай.

Пра спадарыню Крыстыну і яе падапечных не забываюць і маладыя валанцёры. Раней сюды прыязджалі вучні школ у Дуброве-Беластоцкай, Суховолі і Саколцы. Цяпер, у час агульнага крызісу, цяжка знайсці грошы на транспарт, таму іхнія візіты спыніліся. Вернымі ўстанове засталіся вучні крынскай гімназіі. Разам са сваім настаўнікам Паўлам Галкам водзяць яны пажылых пацыентаў на прагулкі, размаўляюць з імі, ладзяць святочныя мастацкія выступленні, забяспечваючы такім чынам кантакт старэйшага чалавека з маладым. Для духоўнай і людской падтрымкі крынскі цэнтр наведвае таксама айцец Варсанофій Дарашкевіч.

— Гэта наш сапраўдны сябра і маральны аўтарытэт, — дадае спадарыня Крыстына, — якога мы вельмі рады тут гасціць.

Крынская медыка-сацыяльная ўстанова адкрываецца таксама на міжнародныя, дзелавыя кантакты і супрацоўніцтва.

— Ад некалькіх гадоў мы ўдзельнічаем у прафесіянальным абмене з медыцынскім персаналам Беларусі і Літвы, — распавядае дырэктарка. — Пасрэднікам і каардынатарам памежнага супрацоўніцтва з'яўляецца Павятовае староства ў Саколцы. Тут, на месцы, мы абменьваемся медыцынскім вопытам, між іншым, з гасцямі з беларускага Маладзечна. З іх прафесійнымі дасягненнямі была нагода пазнаёміцца ў 2006 годзе. Тады мы пабывалі ў маладзечанскай медыка-сацыяльнай установе і ў шпітальным аддзяленні доўгатэрміновай апекі. Цэнтраў такіх як наш там тады не было. З гэтай паездкі прывезлі мы таксама ўспаміны аб прыгажосці горада і гасціннасці яго жыхароў.

Спадарыня Крыстына задаволена агульнай дзейнасцю сваёй установы, але ў ейнай галаве паўстаюць новыя думкі і планы наконт далейшага развіцця.

— Нам неабходна пабольшыць метраж будынка, увялічыць колькасць месц для пацыентаў і працаўнікоў. Праект разбудовы ўжо ёсць, засталося толькі знайсці адпаведнае фінансаванне, — з надзеяй дадае дырэктарка.

Першае паспяховае дзесяцігоддзе дзейнасці крынскай медыка-сацыяльнай установы завяршыла юбілейная канферэнцыя, якая адбылася ў кастрычніку гэтага года. У яе рамках улады Крынскай гміны і Сакольскага павета супольна з дактарамі і тэрапеўтамі абмеркавалі гісторыю і сучаснасць гэтай установы. Спадарыня Крыстына спадзяецца, што і наступныя юбілеі будуць не менш удалымі.

# Адышоў шчыры беларус і добры чалавек



Мікалай Мішчанчук (1939-2012)

У 2003 г. на Кафедры рускай філалогіі Інстытута неафілалогіі сённяшняга Прыродна-гуманітарнага ўніверсітэта ў Седльцах пазнаёміўся я з Міколам Мішчанчуком, які прадставіўся мне як прафесар. Зразу адчулася нешта сімпатычнае ў гэтым чалавеку, хоць і падкрэсліў ён сваю вучонасць. Неўзабаве загаварылі мы паміж сабою па-беларуску. Прафесар, прозвішча якога мне было вядомае раней, а нават у маёй прыватнай бібліятэцы зберагалася адна з ягоных кніжак, выявіўся не толькі выдатным знаўцам рускай, але і беларускай літаратуры. Зразу паміж намі завязаліся нейкія блізкія суадносіны і сяброўства. Прафесар стаў своеасаблівым добрым духам тадышняй Падляшскай акадэміі і, мабыць, адным з найбольш любімых яе вучоных. Як не толькі выдатны крытык і літаратуразнавец, але і паэт, уносіў ён у Інстытут своеасаблівы дух паэзіі. Прыемна было з ім гутарыць і сустракацца.

Прафесар быў добразычлівым і таму зразу выклікаў да сябе прыхільнасць. На жаль, я коратка ў той час працаваў пазаштатным навуковым працаўніком Падляшскай акадэміі, усяго два гады. Вярнуўся сюды толькі ў 2008 г. Таму гэтых нашых сустрэч не было зашмат, хоць сустракаліся мы ў той час і ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя Аляксандра Пушкіна, у якім я працаваў адзін семестр гэтаксама пазаштатным навуковым супрацоўнікам у 2004 г. Прафесар, сустракаючы мяне на калідоры, гэтаксама называў мяне прафесарам (у той час лічыўся я запрошаным прафесарам БрДУ).

Праца ў той час у БрДУ была для мяне вельмі важнай. Тым больш, што раней, пасля ліквідацыі беларусістыкі ў Каталіцкім люблінскім універсітэце ў 2001 г., я быў звольнены з працы як „слабы беларусіст". Афіцыйны прыезд у Беларусь пасля майго доўгага перапынку (апошні раз да гэтага я быў у 1992 г. яшчэ як навуковы супрацоўнік Польскай акадэміі навук у Варшаве), цалкам змяніў мае погляды на сучасную Беларусь, пра якую ў ІІІ Рэчы Паспалітай прапаганда пісала і ўвесь час трубіла выключна негатыўна. Шокам быў ужо сам пераезд мяжы. Амаль без кантролю. Гэтаксама і яе перасячэнне (чысціня тратуараў і вуліц непараўнальная з польскай, амаль як у Нямеччыне, адсутнасць жабракоў, просячых на яду, так як у цэнтры сённяшняй Варшавы ці іншых польскіх гарадоў!). Вось гэты беларускі парадак найбольш шакіраваў тады прыезджага. Газеты таксама выявіліся дэмакратычнымі. Дапускалася ў іх усялякая думка. У адзін момант трэснуў у мяне міф тадышняй польскай прапаганды. Беларусь выявілася не такой, якою яна яе прадстаўляла. А акрамя гэтага кругом былі выключна добразычлівыя людзі. У тым ліку і бл. п. ужо, на жаль, прафесар.

Нячаста сустракаліся мы з прафесарам і хутчэй за ўсё выпадкова, ва ўніверсітэцкім фае, але, як некаторыя кажуць, выпадковасць гэтаксама з'яўляецца невыпадковай. Прафесар разам са сваёй жонкай запрашаў мяне да сябе на кватэру. Складаны час, шмат занятак на кафедры, маё вяртанне кожны тыдзень у Польшчу (адначасна я вёў тады заняткі і ў Падляшскай акадэміі), не дазволілі мне яго наведаць, чаго па сённяшні дзень шкадую.

Памятаю як упершыню выступаў я на навуковай канферэнцыі ў БрДУ ў 2007 г. Прафесар, пабачыўшы мяне ў вялікай зале ўніверсітэта, зразу падышоў да мяне і прысеўся. Пачалі мы гутарыць на ўсялякія, у тым ліку і навуковыя тэмы. Прафесар цікавіўся маімі навуковымі зацікаўленнямі. Гаварылі мы і пра заходнебеларускую літаратуру. На ягоную просьбу я напісаў водгук на кандыдацкую дысертацыю доктара (па нашых мерках) Валянціна Смаля, які ў той час бараніўся ў Беларусі.

Апошні раз сутракаліся мы з прафесарам яшчэ ў 2008-2009 гг. Аднак адчувалася ўжо пакатасць энергіі ў гэтага чалавека. Прафесар, мабыць, быў крыху прыгнечаны незаслужанай, крыўднай ацэнкай сваёй навуковай дзейнасці.

Адышоў ад нас вялікі, добры чалавек, выдатны крытык, паэт і літаратуразнавец, памяць пра якога назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах!

Вечная Яму памяць!

**Юрка ТРАЧУК**

# Пенсіянерскія запусты

Раённая арганізацыя Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе шырока разгортвае культурна-асветную дзейнасць. Арганізуе сваім членам краязнаўчыя паходы, адзначае дзяржаўныя гадавіны, ладзіць сяброўскія сустрэчы і танцавальныя вечарыны. Да ліку цыклічных імпрэз трэба далічыць пенсіянерскія запусты. Сёлета такое мерапрыемства адбылося 24 лістапада ў Гмінным асяродку культуры. Праўда, прысутнасць была невялікая, але аматары танца і спеваў мелі нагоду для вясёлай забавы. Музыкантаў, а быў гэта сямейны гурт братоў з Тапаркоў, рэкамендаваў мясцовы прадпрымальнік Юзік Каліш, у якога з калектывам сяброўскія кантакты. Пачастунак падрыхтавалі самі ўдзельнікі — прыходзілі са сваім „кошычкам". Сталы былі багата застаўлены розната віду мяснымі вырабамі, марынаванымі грыбочкамі, кішанымі агурчыкамі, вінегрэтамі, саладосцямі і фруктамі. Былі гарачыя кава і гарбата. Знайшлося месца і для „мацнейшых" напояў. Калі я заходзіў у залу пасля трынаццатай гадзіны, застолле было ў поўным разгары. Да стала запрасілі мяне чаромхаўскія пявунні: Антаніна Зінчук, Лідзія Зіневіч і Геня Пыталь. І пачалася забава. Хлопцы з Тапаркоў, не ляніўшыся, рэзалі ад вуха да вуха беларускія гіты. У парамешку выконвалі і польскія мелодыі. Калі спынялася музыка, пачыналіся песні. Запяваламі былі пенсіянеры з Бабровкі і мае кампаньёнкі: Яўгенія Пыталь, Лідзія Зіневіч і Антаніна Зінчук. Затым да іх далучылася Оля Раманчук, важак кузаўскіх пенсіянераў, ураджэнка Вулькі-Нурэцкай, адкуль выводзіцца і Геня Пыталь. Цудоўна жанчыны спявалі. А калі далучыліся да іх музыканты, узнік сапраўдны канцэрт. Мне не прыйшлося даўжэй заставацца пры застоллі, хоць кампаньёны сардэчна запрашалі. Гэта ўжо не першая маладосць. Здароўе пачынае падводзіць...

Пакідаў я вясёлую кампанію ў бадзёрым настроі з надзеяй, што неўзабаве сустрэнемся на карнавальных забавах.

**Уладзімір СІДАРУК**



Фота Уладзіміра СІДАРУКА

## Юбілейная вечарына

10 лістапада фальклорны гурт „Нараўчанкі" адзначаў 25-годдзе сваёй дзейнасці. Урачыстая юбілейная вечарына адбылася ў нараўчанскім рэстаране „Stara Gospoda". Сюды прыехала многа запрошаных гасцей з гміны, павета і ваяводства. Прысутнічалі, м.інш.: стараста Гайнаўскага павета Уладзімір Пятрочук, віцэ-стараста Андрэй Скепка, старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі, консул Беларусі ў Беластоку, дырэктар дэпартамента Падляшскай маршалкоўскай управы Анатоль Вап, старшыня таварыства „Радзіма" з Мінска Максім Дубянок, войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч і мясцовыя радныя. „Нараўчанкі" атрымалі шмат узнагарод. Міністр культуры Рэчы Паспалітай Багдан Здраеўскі прызначыў калектыву з Нараўкі ганаровую адзнаку „Zasłużony dla Kultury Polskiej". Старшыня таварыства „Радзіма" падарыў гукаўзмацняльную апаратуру. Затым усе прысутныя глядзелі фільм Юркі Равінскага з Ляўкова аб „Нараўчанках" з вершамі Ядвігі Карпюк і Тадэвуша Кунцэвіча. У мастацкай частцы выступілі радасныя „Нараўчанкі" і запрошаныя „Жаваранкі" з Махнатага ды „Цаглінкі" з Ляўкова. Усе гурты паказаліся дасканала і атрымалі нямала апладысментаў. Пасля пачалася інтэграцыйная вячэра. На сталах было багата страў і напояў. Іграў аркестр, людзі цешыліся і танцавалі, было дужа прыемна. Арганізатарам вечарыны быў Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Каму дапамога?..

Амаль дзесяць гадоў Банк харчоў у Сувалках забяспечваў членаў Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у харчовымі прадуктамі. У час рыначнай эканомікі і гаспадарчага крызісу гэтая дабрадзейнасць была многім маламаёмным старэчам вялікім паратункам. Сёлета нешта перамянілася. Банк у Сувалках абмежаваў некаторым пенсіянерскім арганізацыям пастаўку. На спіску апынулася і Чаромха. Апошняя пастаўка была ў студзені гэтага года, ды і гэта ў абмежаваным відзе прадуктаў. Справу абмежавання паставак намагаўся высветліць у Банку старшыня чаромхаўскай пенсіянерскай арганізацыі Юзаф Дубковіч. У аргументацыі кіраўніцтва Банка ў Сувалках спаслалася на агульнакраёвы гаспадарчы крызіс і недахоп фінансавых сродкаў. Як інфармаваў мяне суразмоўца, канчатковы вынік справы пастаўкі харчовых прадуктаў чаромхаўскім пенсіянерам будзе вядомы пасля размовы старшыні Акруговага праўлення ПСПіІ з падляшскім ваяводам. **(ус)**

## Дарогі ў гміне

Сёлета ў Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) аднавілі шматлікія адрэзкі дарог. Найперш закончылі асфальтаванне звыш паўтаракіламетравай павятовай дарогі з Леснай у Альхоўку ды мадэрнізавалі ўхабістую асфальтавую маставую з Нараўкі ў Міклашэва. У жніўні паклалі асфальт на вуліцы ў вёсцы Сушчы Барок (яна знаходзіцца на павятовым шляху з Нараўкі ў Ахрымы праз Мінкоўку і Падляўкова). Паехаўя палюбавацца шыкоўнай асфальтавай вуліцай у вёсцы Крыніца. Мае яна даўжыню ў 800 метраў. Паклалі таксама асфальт на вуліцы ў Новым Масеве (500-метровай даўжыні), высыпалі гмінную гравейку з Прэнтаў у Пасекі. **(яц)**



зорка
для дзяцей і моладзі
Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

Фота Міры ЛУКШЫ



# У ЧЫЖАХ ЧЫТАЮЦЬ І ВЕДАЮЦЬ

„Чытаю, таму ведаю” гэта цыкл сустрэч пісьменнікаў і вучняў школ у нашым ваяводстве. Школа ў Чыжах, дзе вучні вывучаюць беларускую мову, запрасіла на сустрэчу Міру Лукшу, якая піша таксама для дзяцей. Вучні выдатна падрыхтаваліся да сустрэчы — вывучылі вершы са зборніка „Жывінкі з глыбінкі” (кожны са сваёй мясцовасці, намалявалі ілюстрацыі да зборніка апавяданняў „Дзяўчынка і хмарка”. Наймалодшыя выступілі з тэатральнай сцэнкай пра коціка і мышку. Ахвотна з вершамі выступілі і старэйшыя, а Юля Бяганская прадэкламавала свой твор. З рук дырэктара чыжоўскага дома культуры ўзнагароды ў конкурсе „Мая памятка з гарадзішча” атрымалі Маргарыта Міхалюк і Мартына Белавежац, Кінга Герасімюк і Тамаш Каліноўскі, Марцін Алексяюк і Дар'я Заброцкая, Якуб Грыгарук, Вікторыя Андраюк, БарысІлькевіч і Юліта Юзвюк.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Вершы Віктара Шведа

### Наша бульба

Сядзіць на зэдліку Цімох
І бульбу абірае.
Ён кажа: — Чаму добры Бог
Нам бульбу выдумляе?

Жонка да роздумаў мужчын
Любіць дабавіць штосьці:
— Каб нават бедны селянін
Мог скуру драць з чагосьці.

### Чыя рацыя?

Міхаська ў школу ўвайшоў
Без прывітальных цёплых слоў.
Настаўнік адазваўся: -Лень,
Чаму не кажаш добры дзень?

Міхась стараўся даказаць
Што не намераныілгаць.
— Не маем добрае пары,
Калі віхура на двары.



Фота Ганны Кандрацюк



## Скорагаворка

Каток нітак клубок
Закаціў у куток.

Міра ЛУКША

# Легенда пра лясную з'яву

З вёскі Сушчы да Бяндзюгі вядзе жвіровая дарога. Вакол распасціраецца лясочак. Растуць там розныя дрэвы: хваёвыя і ліставыя. Гэтае месца называецца Вострая Горка, ад гары, якая стаіць пасярэдзіне лесу. Калісьці жыхары згаданых вёсак часта наведвалі сваякоў, што жылі побач на хутарах. Найчасцей спатыкаліся на „вячорках”. Заставаліся там да позніх гадзін вечара. Час праводзілі вельмі прыемна, спявалі, гаварылі, танцавалі. Жанчыны пралі воўну, ткалі, шылі вопратку. Людзі, калі вярталіся дахаты, праходзячы побач лесу бачылі мужчыну ў капелюшы, які выходзіў з-за дрэў і праводзіў іх далей. Людзі, баючыся з'явы, маліліся шчыра і тады невядомы мужчына знікаў. Паколькі не было іншай дарогі, людзі былі вымушаны хадзіць з прывідным спадарожнікам, хаця баяліся яго моцна. Калі даходзілі да дрэў, звычайна пачыналі малітву, жагналіся. Шчырая малітва дапамагла прагнаць злыдня і навек заставіць, каб ён жыў у глыбі лесу.

Цяпер тыя дрэвы ссеклі, а людзі пераважна ездзяць на машынах. Але старэйшыя людзі, якія ведаюць гэтую гісторыю, жагнаюцца і надалей гавораць малітву.

**Юліта Грыко,**
I клас Гімназіі ў Міхалове
Легенду расказала бабуля
Рэгіна Міруць з вёскі Бяндзюгі

# Беларуская загадка-конкурс 49

Адгадайце загадку, адказы дасылайце да паловы снежня, найлепш па электроннай пошце.

Зімою хаваюся,
Вясною з'яўляюся,
Летам весялюся,
Увосень спаць кладуся.

Адказ на загадку-лічылку ў „Зорцы” № 45: год.
Узнагароду, кампакт-дыск гурту „Ilo&friends”, выйграла Уршуля МАРЧУК з Нараўкі. Віншуем!



# У хаце размаўляем па-свойму!

Фота Ганны Кандрацюк

Калі набліжаецца пост, хлопцы напамінаюць пра гэта, каб мы не забыліся, — кажа мама Матэвуша і Якуба, вучняў праваслаўнай школы ў Беластоку.

— Таму ад некалькіх гадоў мы ўсёй сям'ёй трымаем пост і не ўяўляем, што можа быць інакш, — дадае спадарыня Галіна Навумюк. У пост яны не спажываюць мяса, не слухаюць музыкі, не ходзяць на танцы...

Апошняя заўвага вельмі дарэчы, бо Матвей і Куба непаседы, якіх проста разносіць энергія. А Матэвуш яшчэ танцуе ў школьным ансамблі...

Сустракаемся на прыгожым юбілеі — пяцігоддзі Непублічнай школы імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, які адзначалі 24 лістапада г.г. За гэты час школа разраслася. У ёй больш за васемдзесят навучэнцаў.

— Беларуская мова для нас вельмі важная, — кажа настаўніца Іаанна Марко. — Пра гэта сведчыць лік дзяцей. На беларускую мову прыходзіць семдзесят вучняў з агульнага ліку васьмідзесяці навучэнцаў. І гэта якія дзеці! Ніколі няма так, што ім чагосьці не хочацца. Яны горнуцца не толькі да спеваў ці танцаў. Вось, аж 16 дзяцей прыступіла да прадметнага конкурсу па беларускай мове, з якіх аж восем прайшло да наступнага, ваяводскага этапу. Для многіх дапамагалі бацькі ў хаце, і гэта вельмі цешыць, што навучанне беларускай мове не зводзіцца толькі да ўрокаў у школе...

У час мастацкай часткі былі песні на мовах, якія дзеці вывучаюць у школе: па-польску, па-руску, па-англійску, па-ўкраінску і па-беларуску. Беларуская песня з рэпертуару Анжалікі Агурбаш „Гора за гарой" (на словы Уладзіміра Някляева і музыку Васіля Раінчыка) выклікала фурор. Заспявалі яе ўсе дзяўчаты і хлопцы... а лепш сказаць грымнулі, аж сцены затрасліся! Пасля ўсе, бацькі, госці і дзеці, доўга пляскалі ў далоні...

— Мы вельмі любім праваслаўную школу, — кажа Галіна Навумюк, — і можна сказаць, што дзякуючы нашым хлопцам мы памянялі стыль жыцця. Цяпер у кожную нядзельку мы ўсёй сям'ёй едзем на раннюю багаслужбу. Дзякуючы гэтаму, больш поўна адчуваем свята і маем больш часу для сябе. Гэта цудоўная і вельмі добрая справа.

Мама Матэвуша і Кубы працуе настаўніцай, таму пытаем пра родную мову.

— У хаце размаўляем па-свойму. А хлопцам гэта вельмі падабаецца! Яны бяруць прыклад з нас, стараюцца так гаварыць. А калі пра пост, зразумела, будзем трымаць! Гэта ў нас свядомы выбар, каб суцішыцца, ачысціцца...

**ЗОРКА**

# Тры тэмы на адным уроку

Фота Ганны Кандрацюк

З **Марыяй Панасэвіч-Дубіцкай**, настаўніцай беларускай мовы ў Залуках, гутарыць Ганна Кандрацюк.

***ГК: — У Залуках, у Непублічнай школе, Вы працуеце ўжо...***

МП-К: — Ужо чацвёрты год...

***ГК: — Мне сказалі, што ў вас па палове праваслаўных і каталікоў, і ўсе дзеці вывучаюць беларускую мову. Як гэта атрымалася?***

МП-К: — Звычайна, так вырашылі бацькі. Яны падаюць дэкларацыі аб тым, што іх дзеці будуць вывучаць беларускую мову...

***ГК: — Разам таксама святкуеце вясковыя святы?***

МП-К: — Як школа, мы вельмі старанна рыхтуемся да *Купалля* і *Дажынак*. Гэта галоўныя святы ў вёсцы. Вывучаем народныя абрады, беларускія вершы і песні. Гэта ўжо традыцыя.

***ГК: — Ну, але неўзабаве, у Запусты, будзеце гаварыць пра Хэлаўін і Анджэйкі. Чаму тут няма беларускіх забаваў...***

МП-К: — У гэты раз Запусты падрыхтавала настаўніца англійскай мовы, таму будзе *Хэлаўін*. А калі пра беларускія акцэнты, то яны заўсёды ў нас прысутныя. Дзеці не ўяўляюць гульні і танцаў пад іншую музыку як беларуская.

***ГК: — Вашы дзеці ўжо польскамоўныя, хоць трэба сказаць, што яны разумеюць па-беларуску, і вельмі любяць песню пра хворага коціка...***

МП-К: — Беларускую мову ўводзім ужо ў прадшколлі. Вось зараз мы з пяцігодкамі гаворым пра жывёл. Аглядаем кніжкі, малюем звяроў, гаворым пра іх. Раней знаёміліся з садавінай і агароднінай. Дзецям вельмі падабаюцца гульні „Галодны леў" і „Кампот". Трэба сказаць, што беларускую мову некаторыя чуюць у хаце, на вуліцы...

***ГК: — У Вас даволі складаныя ўмовы працы. У час адной гадзіны Вы вядзеце тры тэмы з чацвёртым, пятым і шостым класамі. Як гэта магчыма?***

МП-К: — Напэўна трэба вельмі старанна падрыхтавацца да такога ўрока, каб адначасова весці тры тэмы, назначаныя праграмай. Але што нам рабіць? Гэта сітуацыя такая: у пятым і шостым класах у нас па адным вучні.

***ГК — А ўсіх вучняў у школе...***

МП-К: — Трыццаць тры, а з прадшколлем — сорак адзін.

***ГК: — Як выглядае справа з падручнікамі?***

МП-К: — О, гэта вялікая праблема. Я маю толькі падручнікі для сябе, калі што патрэбна, адбіваем старонкі кніжак...

***ГК: — Калі адбіваеце на ксераксе „Літарынку", яна ўжо не каляровая?***

МП-К: — Так, гэта асобная праблема. Але працуем, трымаемся праграмы. Вялікай дапамогай для нас з'яўляецца беларускі сайт „Нашыя дзеткі".

***ГК: — Ну так, але інтэрнэтнай старонкі не занясеш дамоў у рукзаку, не паложыш пад падушку.***

МП-К: — Гэта праўда, кніжка ёсць кніжка. У чацвёртым класе, напрыклад, вельмі любяць чытаць. Я шукаю ім апавяданні, казкі, вершы, якія мы супольна чытаем на ўроках.

***ГК: — Ці ўсе Вашыя дзеці пасля вывучаюць беларускую мову ў гімназіі ў Гарадку?***

МП-К: — Не, не ўсе. Некаторыя дзеці таксама даязджаюць у гімназію ў Беласток.

***ГК: — У школе вельмі ганарацца поспехам Міхала Вароновіча, які заняў III месца ў „Родным слове".***

МП-К: — Так, гэта наш вялікі поспех. Удзельнічаем яшчэ ў конкурсе беларускай песні, у мінулым годзе атрымалі вылучэнне.

***ГК: — Вы раней працавалі са студэнтамі. Скажыце, як падабаецца Вам праца ў непублічнай школе з малымі, вясковымі дзеткамі?***

МП-К: — Напэўна гэта зусім іншы досвед. Ведаеце, каб працаваць у Залуках, я вымушана кожны дзень падымацца ў пяць гадзін раніцы, ехаць на аўтобусе з Беластока. Гэта напэўна вялікі выклік, складанасць. Але тут, у Залуках, вельмі добрая атмасфера, зразуменне. Дзеткі, як вы самі прыкмецілі, адкрытыя, спантанныя. Ім усё, што робім на ўроках беларускай мовы, вельмі падабаецца. Я сама атрымліваю многа прафесійнага задавальнення, а гэта найважнейшае для настаўніка.

***ГК: — Неўзабаве Каляды. Як адзначыце гэтае свята?***

МП-К: — Як кожны год, мы сустрэнемся з бацькамі. Яны рыхтуюць святочныя стравы. Мы ў сваю чаргу падрыхтуем беларускую сцэнку на школьнае мерапрыемства. Наогул стараемся, каб у час кожнага школьнага свята былі беларускія акцэнты. А калі пра Запусты — мы падумаем, каб было там яшчэ нешта па-беларуску апрача музыкі.

# Польска-беларуская крыжаванка № 49

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 44:

Бот, складка, дзіця, дзень, дзядок, школа, ах. Сок, як, дзік, Надзя, дзед, кіно, бацька, ты, шлях. Узнагароды, аўтаручкі з лагатыпам „Камунікату", выйгралі: **Лукаш Марчук**, **Наталля Васько**, **Адам Харкевіч** з Нараўкі, **Патрык Мартынюк**, **Патрыцыя Міхальчук**, **Аляксандра Валосік**, **Катажына Лаўрэшук**, **Эльвіра Артысевіч**, **Эміліян Крысевіч** з Бельска-Падляшскага, **Інэз Дмітрук** з Орлі. Віншуем.

Chomik
Duch
Kaptur
Chrapa
Puch
Kłamca
Stan
Motyw
Kapusta
Zachariusz
Echo
Zapusty
Aura
Jan
Zapach
My
As
ech!
Mgła
Ryż
Twarz




У час майстар-класаў музейнікі гулялі між іншым з выкарыстаннем элементаў архітэктуры перыяду класіцызму (на першым плане музейнікі Гродзеншчыны)

# Польска-беларускія музейныя сустрэчы

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Польска-беларускія музейныя сустрэчы, якія з 16 па 19 лістапада адбыліся галоўным чынам у Бельску-Падляшскім, былі добрым прыкладам трансгранічнага супрацоўніцтва паміж культурнымі ўстановамі Польшчы і Беларусі. Іх арганізатары і ўдзельнікі лічаць патрэбным, а нават неабходным, прадаўжаць такое супрацоўніцтва, паколькі Падляшша і Гродзеншчына ў мінулым знаходзіліся ў тых самых дзяржавах і на абодвух тэрыторыях захавалася многа падобных артэфактаў.**

Прадугледжваецца выкарыстанне вопыту замежных сяброў у музейнай адукацыі і лепшым даследаванні мінулага абодвух рэгіёнаў. Галоўным арганізатарам праекта быў Падляшскі музей у Беластоку, а музейныя сустрэчы адбыліся ў яго філіяле — Музеі ў Бельску-Падляшскім. Суарганізатарам мерапрыемства быў Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, які ўжо раней наладзіў супрацоўніцтва з беластоцкім музеем і яго філіялам у Бельску-Падляшскім. Працаўнікі ГДГАМ наведалі таксама Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы.

— Ідэя наладзіць супрацоўніцтва паміж музейнікамі Падляшша і Гродзеншчыны ўзнікла два гады таму, калі мы ладзілі праект «Марыся і мама ідуць у музей». Тады на спатканне прыехала двух музейнікаў з Гродна і мы рашыліся наладзіць больш цеснае супрацоўніцтва паміж нашымі музеямі. У Гродне мы пазнаёміліся з дырэктарам ГДГАМ Юрыем Кітуркам і абмеркавалі магчымасці супрацоўніцтва. На арганізаванне сённяшніх музейных сустрэч, у якіх прымаюць удзел па 15 асоб з нашага музея і музеяў Гродзеншчыны, атрымалі мы сродкі з Міністэрства замежных спраў. Маем тут магчымасць абмяняцца вопытам у галіне музейнай адукацыі і ў галіне збірання і прэзентавання экспанатаў. Мы наладзілі цесныя асабістыя кантакты і можам прадаўжаць супрацоўніцтва без дапамогі самаўрадавых, ці дзяржаўных улад, — сказала кіраўнік Музея ў Бельску-Падляшскім Аліна Дэмбоўская.

«Помнік старадаўнасці» — такі быў лозунг першага дня сустрэч. Пасля ўрачыстага адкрыцця мерапрыемства музейнікі з Польшчы і Беларусі пайшлі знаёміцца з помнікамі старадаўнасці Бельска-Падляшскага — горада з тысячагадовай гісторыяй. Паглядзелі яны Прачысценскую і Міхайлаўскую праваслаўныя цэрквы і каталіцкую базіліку Нараджэння Прасвятой Багародзіцы і св. Мікалая, выкананую па праекце вядомага ў Польшчы архітэктара Шымана Багуміла Цуга, паводле праектаў якога былі ўзведзены будоўлі ў Варшаве. Музейнікі пабывалі на Замкавай гары ў Бельску, на месцы, дзе знаходзілася сінагога, наведалі белліцэй. Пазней удзельнікі спатканняў слухалі даклад пра архітэктуру бельскай базілікі — помніка класіцызму. У час майстар-класаў музейнікі выразалі контуры будоўляў або іх фрагментаў, характэрныя для класіцызму і наклейвалі іх на каляровую паперу, састаўляючы нейкую цэласць.

— Базіліка Нараджэння Прасвятой Багародзіцы і св. Мікалая гэта адзіная будоўля ў цэнтры Бельска, збудаваная ў стылі класіцызму, якая захавалася ў добрым стане. Яе праектант Шыман Багуміл Цуг вядомы ў Польшчы архітэктар і таму мы рашыліся дакладней заняцца аналізам архітэктуры гэтага помніка. Спадабаліся нам таксама прыгожыя бельскія цэрквы і мы застаемся пад уражаннем незвычайнай атмасферы, якую мы заўважылі ў беларускім ліцэі. Там нашымі экскурсаводамі былі музейнікі з Беларусі, якія расказвалі пра змест шматлікіх насценгазет. Цікавымі былі таксама спатканні з дырэктарам Андрэем Сцепанюком, які расказваў пра школу і моладзь, якая тут вучыцца. У час экскурсіі па Бельску мы маглі лепш пазнаць яго атмасферу шматкультурнасці і шматнацыянальнасці. У горадзе мы сустракаліся з зычлівымі жыхарамі, якія ахвотна адказвалі на нашыя пытанні, — гаварыў Данель Артымоўскі з Каралеўскага замка ў Варшаве, які разам з жонкай Бэатай былі адказныя за аналіз помнікаў класіцызму. — Ідэя музейных сустрэч вельмі *файная*, нашы і беларускія музейнікі маюць тут магчымасць абмяняцца вопытам, бо раней не было магчымасці гэтае зрабіць у такой вялікай групе.

— Цікавай з'яўляецца формула нашых музейных спатканняў з выкарыстаннем гульняў у час майстар-класаў. Спадабаўся нам таксама Бельск-Падляшскі і яго помнікі, — сказалі Кацярына Галота і Вольга Цімошына, навуковыя супрацоўнікі ГДГАМ, які змяшчаецца ў памяшканнях гродзенскіх Старога і Новага замкаў. Сабраныя дакладней пазнаёміліся з дзейнасцю Падляшскага музея ў Беластоку і музеяў у Беларусі. Лозунгам другога дня сустрэч была «Ікона» і таму музейнікі наведалі Школу іканапісання ў Бельску-Падляшскім. У час майстар-класаў гаварылі пра спосаб выканання іконы св. Юрыя Пераможцы і паспрабавалі напісаць гэтую ікону, па кавалачках. Карысталіся яны традыцыйнай тэмперай, выкананай з прымессю яек, працуючы ў калектыве так, каб кавалкі ікон пасавалі адзін да другога.

— Ікона св. Юрыя цікавая, а ён сам — адзін з самых вядомых у свеце святых, — заявіў Данель Артымоўскі з Каралеўскага замка ў Варшаве і дабавіў, што ўсе майстар-класы, якія праводзяцца ў час сустрэч, можна будзе пасля выкарыстаць у адукацыйнай прапанове музеяў. Вельмі важнымі былі бельскія спатканні для навуковых супрацоўнікаў невялікіх музеяў Гродзеншчыны, якія састаўлялі прыблізна палову гасцей з Беларусі.

— Цікавай з'яўляецца ідэя супольнай працы музейнікаў дзвюх краін. Можам тут многаму навучыцца, — сказала Галіна Кавальчук з Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея. — У нашым музеі ёсць каля 300 ікон выкананых у XIX і XX стагоддзях. Перадалі іх нам мытнікі, якія адабралі іконы ў кантрабандыстаў. Для вучняў я якраз вяду заняткі па рэлігіі, расказваю ім пра храмы, іконы і багаслужбы. Дзеці з заходняй Беларусі, якія прыязджаюць паглядзець Навагрудскі замак, намнога лепш зарыентаваныя ў праваслаўнай і каталіцкай рэлігіях, чам вучні з усходняй Беларусі.

Лозунгам трэцяга дня мерапрыемства быў «Народны ручнік Бельскай зямлі» (у мінулым ахоплівала яна таксама сённяшні Гайнаўскі і частку Сямятыцкага паветаў). Музейнікі пазнаёміліся з выставай «Таямнічы ручнік», якая прэзентуецца ў музеі ў бельскай ратушы, дзе праходзілі ўсе майстар-класы, даклады і дыскусіі. Сабраныя ад кіраўніка бельскага музея Аліны Дэмбоўскай даведаліся аб праекце збірання, апісвання і каталагізацыі народных ручнікоў. Музейнікам была таксама запрэзентавана старадаўняя мода — «Адзін раз па-народнаму», уборы XIX і XX стагоддзяў насельніцтва Падляшша. У час чарговых майстар-класаў іх удзельнікі пераносілі кветачныя ўзоры з ручнікоў на гадзіннікі і бранзалеткі.

— Нашыя ручнікі вельмі падобныя да сабраных на Гродзеншчыне, якіх многа захоўваецца ў музеях за мяжой. Узоры на ручніках і карункі вельмі падобныя. На жаль, у нас практычна не захаваліся ручнікі з тканымі ўзорамі, якія можна ўбачыць на Гродзеншчыне, — гаварыла кіраўнік Аліна Дэмбоўская.

Многа цікавага пра свой музей расказала Кацярына Басінская, дырэктар Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея:

— Музей у Гудзевічах быў заснаваны ў 1968 годзе Алесем Белакозам і спачатку дзейнічаў як школьны музейчык. Зараз працуе ён на прынцыпах сялянскай сядзібы XIX стагоддзя. Вельмі каштоўнымі лічацца ў нас лісты, якія мы атрымалі ад Ларысы Геніюш, Васіля Быкава, Максіма Танка, ці Янкі Брыля. У шасцідзесятых і сямідзесятых гадах нашы вучні пісалі лісты пісьменнікам і атрымлівалі ад іх адказы, якія мы захоўваем. Калі музей дзейнічаў у школе, з-за атэістычнай палітыкі нельга было вешаць у ім ікон і наш Алесь Белакоз, зараз 83-гадовы чалавек, рашыўся тады змясціць на покуці папяровую выяву Францыска Скарыны, упрыгожыўшы яе ручніком і так засталося па-сённяшні дзень. Іншыя цікавыя прапановы нашага музея — падвойнае ткацтва, якога мала захавалася ў Беларусі. У нас ёсць нават дыван з 1898 года. Прэзентуем мы таксама вучням варштат для падвойнага ткацтва.

Наталля Гарох з Мастоўскага дзяржаўнага музея „Лес і чалавек" расказала пра музейныя экспанаты, звязаныя з сельскай гаспадаркай і рамяством. Дзіна Шчуроўская са Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея гаварыла пра пачаткі сваёй установы, у якой покі дзейнічаюць толькі часовыя выстаўкі.

У апошні дзень польска-беларускіх музейных сустрэч іх удзельнікі адправіліся на экскурсію па філіялах Падляшскага музея ў Беластоку. Пачалі ад галоўнага памяшкання музея, пасля наведалі Гістарычны музей у Беластоку, Музей ікон у Супраслі і Музей у Тыкоціне. Удзельнікі музейных спатканняў лічаць, што падобныя сустрэчы будуць ладзіцца і ў будучыні, паколькі патрэбу такіх дзеянняў заўважыла Міністэрства замежных спраў РП, якое падтрымала праект у рамках конкурсу «Супольныя польска-беларускія дзеянні 2012».

— Хочам у будучыні арганізаваць падобныя музейныя сустрэчы з удзелам музейнікаў Гродзеншчыны, з якімі мы ўжо наладзілі супрацоўніцтва. Аднак па тэхнічных і арганізацыйных прычынах прадугледжваем, што будуць яны праходзіць яшчэ ў нас, а можа толькі праз 2-3 гады. Калі будуць спрыяльныя ўмовы, паспрабуем наладзіць такія спатканні на Гродзеншчыне, — сказала кіраўнік Аліна Дэмбоўская.

Рэзультатам музейных сустрэч мае быць спытак па практычнай працы з наведвальнікамі музеяў.

# З Кузніцкага прыхода (ч. II)

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

У працы „О расселении племен западного края России” Каяловіч пісаў: „Нельзя не призадуматься над белорусскою страною и историческою судьбою населяющаго ее народа. Потомки древних кривичей и драговичей занимают самую неблагодарную почву. На такой почве, в таком положении, само собою разумеется, не легко могла вырабатываться любовь к родному и энергическия ее выражения. Легче могло развиваться напротив желание пересоздаться в кого удобно — в великорусса или поляка лишь бы как-нибудь выйти из тяжелаго положения. Этой изменчивости своему родному элементу способствует само наречие белорусское, которое, при неоспоримо русском строе, представляет собою однако поразительную середину между русским и польским языком”.



I яшчэ адна моўная асаблівасць, падхопленая ўраджэнцам Кузніцы, якую ён заўважыў у нашым старонні, „в тех местах, где малороссийское и белорусское племена сходятся, как, например, около Припети и у реки Нарвы. Там объединяются малороссийский и белорусский говоры, и — замечательное явление — от этого объединения выходит речь чисто великорусская. Напримерь: по-малороссийски *тэпэръ*, по-белорусски *цяперь*. Малоросс, делая уступку белоруссу, смягчает свое *э*, а белорусс уступает свои *ц*, *я*, заменяет их буквами *т*, *е*, и выходит *теперь*”. Такім вось чынам атрымліваецца, што сёняшні „общепонятный язык” выводзіцца з нашага Падляшша...

Падляшша важнае не толькі ў моўным ракурсе, яно важнае і ў этнатапаграфіі: „Прошу вас обратить внимание на западный уголок Гродненской губернии, приблизительно между Гродном и Дрогичином, между Неманом и Бугом — это историческия ворота для движения польскаго племени в Западную Россию. Такое положение этого уголка Гродненской губернии определилось отчасти тем, что эта местность составляла середину бывшаго Польскаго государства, (оттого в этой местности так много бывало сеймов) отчасти тем, что это естественный путь для польскаго элемента из центра польскаго народа в действительной Польше. Но есть еще одна причина такого значения этой местности. Значительная часть ея в начале XV столетия была заложена литовскими князьями мазовецким князьям. В 1569 г. на Люблинском сейме литовцы настойчиво добивались возвращения назад этой страны, называвшейся Подлясьем; но добивались напрасно. Поляки окончательно присоединили ея к себе по акту Люблинской унии прежде даже других западно-русских областей и так считали важным держать ее при себе крепко, что до позднейшаго времени стесняли самоуправление этой страны, стесняли свободный выбор послов на сейм, заменяя его представительством административных чиновников”. Атрымліваецца яшчэ, што і выбарчая сістэма сённяшняй Беларусі таксама выводзіцца з нашага Падляшша...

Каяловіч: „Благодаря всему этому польский элемент здесь сильно утвердился. Мазовецкое племя, здесь живущее, состоящее частию из действительных поляков, частию из ополячившихся туземцев древней Литвы, при постоянном укреплении извнутри Польши, успело произвести сильное влияние на примыкающие к нему туземные племена западно-русския. Вот отсюда-то, из этого базиса действий, польское племя разошлось во всю Западную Россию. Разошлось оно здесь двумя ветвями: одна ветвь идет на юговосток к Черному морю через Волынь и Подолию, другая на северовосток через Вильно к Двине, далее вверх ро Двине к Днепру и несколько спускается вниз по Днепру. Расселение польскаго племени по юговосточной полосе вызвано стремлением занять благодатную малороссийскую почву, которую сами польские писатели называют текущею млеком и медом. Это последнее обстоятельство имеет очень важное значение в историческом развитии этой полосы польскаго племени. Привязанность к благодатной земле, при влиянии сильного малороссийскаго элемента, производит то, что тамошние поляки, при всем их желании казаться чистыми поляками, в действительности менее поляки, чем это кажется, и более малороссы, чем это им желательно. Отсюда-то повидимому странное явление, что из них недавно пробовала выделится группа людей, которые объявляли себя народными деятелями Малороссии. Это явление утешительно и благоприятно для Малороссии, но оно, может быть, требует некоторой зоркости со стороны малороссов. Совсем другую историю и другия особенности имеет северовосточная полоса польскаго племени в Западной России — полоса литовско-белорусская. Неблагодарная литовская и белорусская почва не могла привлекать сюда польское племя. Не могла развиться в этом племени и любовь к земле и любовь к населяющему ее туземному народу. Расселение здесь поляков вызвано было военными делами прежняго Польскаго государства з прежним Московским, и едва ли не больше еще религиозным движением — расселением иезуитов, которые на этой полосе имели два главные свои пункта — в Вильне и в Полоцке. С этим-то государственным и религиозным значением польское племя на этой полосе осталось и до настоящего времени”.




Але не толькі палякі сяліліся на Беларусі і Украіне: „С польским племенем в Западной России неразрывно связано племя еврейское. Я думаю, что этая связь жидовскаго племени в Западной России с польским не случайная. Я думаю не случайно и то, что во всем бывшем польском государстве жидов расселилось так много, как нигде в Западной Европе. Я думаю, что это логическое последствие историческаго склада польской жизни. Жидовство в бывшем Польском государстве — это компромисс, сделка, посредничество между шляхетством и хлопством. Шляхетство считало для себя непозволительным унижаться до занятий — торговлей, промышленностию. Из него не могло образоваться городское, среднее сословие. Сословию этому нужно было выделиться из хлопства; но это было опасно. Мне конечно известно, что была попытка образовать туземное прочное мещанство посредством Магдебургскаго права, но мне известно также как встревожились поляки когда оказалось, что мещане-братчики имеют на сеймах своих представителей. Это было в начале XVII столетия и с тех-то пор особенно становится заметным падение туземнаго городского сословия и усиление жидов. И не займи жиды этой середины между шляхетством и хлопством, очень вероятно, что явились бы занять ее татары, цыгане или другое какое-либо племя, отличное резко, по своим народным и религиозным началам, и от шляхетства и от хлопства”. Цяпер гэты прынцып прымяняецца мо не так у сярэдніх, як у вярхоўных эшалонах беларускай улады...

Каяловіч: „Жиды в Западной России везде населяют города, составляют городское сословие, торговое. Все попытки привлечь их к земледелию оказывались неудачными. В позднейшия времена в Западной России попадаются жиды, занимающиеся земледелием, но очень редко как земледельцы, а чаще всего как землевладельцы, обработывающие землю христианскими руками. Известно, что еврейский народ, потерявший свою государственность и оторвавшийся от родной своей земли, везде исторически развивал в себе особенную способность к торговым оборотам. Они действительно заняли все пункты, где только может происходить что-либо торговое. Приезжаете вы в город, вам нельзя ни остановиться, ни продать, ни купить, ни даже узнать что-либо без жида. Выехали за город, едете по дороге, на постоялом дворе жид; приехали к перевозу — жид управляет; смотрите: плывет барка или лодка чем-либо нагруженная, работают местные крестьяне, а жид торчит тут, как хозяин. В новейшие времена жид нередко торчит и на полях во время жатвы, даже на чисто крестьянских полях. Это значит — жид закупил жатву и наблюдает за уборкой закупленнаго на корню хлеба”.

Уладары беларускіх зямель заключалі саюзы з суседзямі. Каяловіч пра першае такое ўз'яднанне: „До перваго соединения Литвы с Польшей вера в Литве была делом совести, а не интересом государственным и предметом выгод. Ягелло первым изменил это великое начало жизни литовской и дал вере значение государственное, которое, встретившись со свойственным латинству фанатизмом, повело к жестоким насилиям и преследованиям русскаго православнаго народа”. Калі б Каяловіч жыў у наш час, ён, магчыма, заўважыў бы, што на вырасціўшай яго зямлі дзяржаўнае ўмяшальніцтва ахоплівае і іншыя сферы чалавечага сумлення...

Якое месца погляды Каяловіча займаюць у сучаснай беларускай палітычнай прасторы — не ўмею акрэсліць. Яны афіцыёзам быццам замоўчваюцца, але на справе здаюцца быць фундаментам, на якім грунтуюцца галоўныя палітычныя азімуты афіцыйнага Мінска. І мяркую, што варта было, так крыху павярхоўна, пазнаёміцца з поглядамі нашага земляка.

# Лета 2012 года (3)



Пра сучасную Беларусь замнога цікавага не скажаш, хаця ўвесь час чуецца адтуль то пра ўсё новыя і новыя здабыткі, то навуковыя адкрыцці, то пра ўнікальныя аграпрамысловыя комплексы ды вайсковыя дасягненні. Заходнія ж скпетыкі не вераць ім. Як не паверылі ў тое, што паветраная прастора над Беларуссю ўжо шчыльна і надзейна закрыта для ўсяляkіх няпрошаных „гасцей”. І якраз пасля таго, як „прэзідэнт” пахваліў і шчодра ўзнагародзіў сваіх вайскоўцаў адказных за гэтую шчыльную і надзейную ахову свaёй паветранай прасторы, разыгралі проста пусцяковіну. І хто? Зазвычай ціхія і асцярожныя шведы. Яны, прахвосты, ціхачом лятaлі па гэтай шчыльна замкнутай беларускай паветранай прасторы і раскідвалі там плюшавыя мядзведзікі. І чорт з імі, гэтымі шведамі і плюшавымі мядзведзікамі, няхай бы лятaлі і раскідалі, бо і так бы ніхто аб гэтым не даведаўся. Ды не, ім гэтага было яшчэ мала — узялі і пахваліліся перад светам цэлым. Чым жа не дагадзілі беларусы патомкам вікінгаў, што яны так насмяяліся над беларусамі? Можа не могуць дараваць беларусам за прайграную Палтаўскую бітву, бо пачатак разгрому шведскай арміі распачаўся тады на беларускай зямлі. Тут менавіта разбіты і палонены былі шведскія абозы і вайсковыя часткі, якія ішлі на дапамогу галоўным сілам пад Палтаву. І не дайшлі. Як бы там зрэшты не было, але пасля прызнання шведаў у гэтым мішкавым злачынстве разгарэўся магутны міжнародны дыпламатычны скандал. Калі б хацелі гэты інцыдэнт выразіць на спартыўны спосаб, то вынік яго, па-мойму, атрымаўся б нічыйны 1:1, бо па абодвух баках былі так карысці, як і страты. Шведаў, канешне, фінансава каштаваў гэты жарцік. Але наглядна даказалі яны ім, што не з'яўляюцца нуднымі і халоднымі мымрамі — як пра іх многія думаюць — а нармальным дасціпным народам. Беларусы страцілі генерала ці генералаў, бо прэзідэнт, падобна, папёр вінаватых з арміі. І тут страта невялікая, бо што вартыя генералы, якія не сумелі залатаць дзіравага неба. Затое бясплатна атрымалі плюшавыя мішкі...

А што можна сказаць пра краіну, якую было „умом не понять и аршином не измерить”? Як маецца яна цяпер, у 2012 годзе?

Яе і надалей „умом не понять и аршином не измерить”. І надалей пра яе можна расказваць, расказваць, расказваць, як пра родную жонку. Розніца, аднак, у тым, шо калі пра жонку ў асноўным добрае, то пра Расію, на жаль, не заўсёды добрае. І вінавата ў гэтым сама Расія, а дакладней — яе начальства, і ўжо многія-многія дзесяцігоддзі. Гэтае бяздарнае кіраўніцтва вяло Расію ад адной утопіі да другой, ад аднаго заняпаду да другога, напрыклад, у савецкія часы. Можа таму, што яно інакш не ўмела, а можа і не хацела. Вось менавіта таму — на маю думку — гэтая казачная, багатая краіна ніяк не можа выкарабкацца з пастаянных нястач, беднасці свайго грамадства, адсталасці і прымітывізму часамі. Пры разумнай дзяржаўнай палітыцы і эканоміцы там дастойна і заможна магло б жыць многа больш народу, бо жыве замала і пастаянна меншае. Сваім сучасным капіталізмам расіяне таксама не могуць пахваліцца. Нейкі нечалавечы, не з людскім тварам ён...

А цяпер прыгадайма, якая сёлетняя расійская падзея найбольшым рэхам адбілася ў самой Расіі і на свеце. Мне здаецца — танец пяці закамуфляваных жанчын у храме Хрыста Збаўцы ў Маскве. Гэта быў танец-просьба да Багародзіцы забраць з Расіі прэзідэнта Пуціна. І суд над танцоркамі. Камуфляж і танец у такім месцы, па-мойму, бескультур'е, дзікасць. На такіх выглядаюць і самі танцоркі. А каб яны гэта зрабілі, дапусцім, на Чырвоным пляцы ці перад вокнамі рэзідэнцыі прэзідэнта, то можна было б і пасмяяцца, але не ў храме. Пасадзіць іх за гэта таксама як бы не выпадае, але падняць спаднічкі і публічна надаваць ім па задніцах — кара ў сам раз. І няма чаго плакаць над іх лёсам, бо ў Польшчы за падобную правіннасць патрактавалі б іх значна суровей...

На заканчэнне расійскай тэмы варта заглянуць яшчэ і на расійскія рэкламы. Рэкламы вельмі жывыя, цікавыя і вартасныя. Яны дакладна характарызуюць сваю эпоху, сваіх стваральнікаў і цэлую нацыю. Сярод іх пападаюцца проста жамчужыны. Таму лічу, што іх трэба было б выдзеліць у асобны літаратурны жанр. А найдзіўнейшымі з іх 'яўляюцца рэкламы гарэлкі і алкагольных напояў, бо здавалася б што якраз іх там рэкламаваць не трэба, яны і так надзвычай папулярныя ў іх. І падобна ж расіяне змагаюцца з алкагалізмам і алкаголікамі. Вось адна з апошніх рэклам, якую проста да адурэння паўтарае іхні тэлеканал:

*Первый атомный ледокол,*
*Первые полёты в космос,*
*Водка Посольская,*
*Нам есть чем гордиться.*

Такая рэклама — мне здаецца — магла паявіцца толькі ў Расіі. І толькі расіяне могуць паставіць гарэлку, хаця і пасольскую, нараўне з атамным ледаколам і палётамі ў космас, і аднолькава ганарыцца імі. Хтосьці іншы можа тут сказаць: чаму ж гарэлка не на першым месцы? Яна была і перад атамаходамі, і перад палётамі ў космас ды і спраўяецца лепей ад іх. Першыя часценька тонуць, а другія яшчэ часцей падаюць. А гарэлка, пасольская ці калгасная яна — дудкі, ні хрэна. Хутчэй усю нацыю выкасіць, чым сама загнецца... Калі ж у тэлебачанні паяўляюцца такія рэкламы, чаму б, здаецца, для раўнавагі і справядлівасці не паявіцца і такой:

*Самое большое количество алкашей и наркоманов,*
*Самое большое количество бомжей и проституток*
*Тоже у нас — и это дело водки!*
*Нам есть над чем подумать!..*

Вось менавіта такія павінны паяўляцца рэкламы ў Расіі, але чамусьці не паяўляюцца — і народ п'е, нарканіць, бамжуе і прастытуіруецца...

*Здравия желаю вам, братья-россияне!*
*И пью за вас рюмку самогона — на здароўе!!!*

**Васіль САКОЎСКІ**



# БЕЛАРУСІ Скарбы

### Помнікі за кратамі

Некаторыя архітэктурныя каштоўнасці Беларусі можна вобразна назваць „помнікі за кратамі”. За гады панавання розных таталітарных рэжымаў на шматпакутнай нашай зямлі такіх будынкаў, створаных пачаткова дойлідамі для людской радасці ці абароны, было пераўтворана ў жахлівыя астрогі, турмы і катавальні нямала. Пералік такіх архітэктурных комплексаў будзе досыць вялікім. Варта згадаць хоць бы кляштар у Бярозе, дзе некалі існаваў асяродак ордэна картэзіянцаў ці картузаў, як казалі на нашых землях. Яшчэ ў 1920-я гады тут быў створаны канцэнтрацыйны лагер для палітычных зняволеных.

У наш час пенітэнцыярная сістэма прадаўжае „традыцыі” ранейшых карных рэжымаў. Яскравы прыклад таму гродзенская турма ў самым цэнтры горада, якая надалей размешчана ў былым езуіцкім кляштары. Некалі тут сядзелі беларускія літаратары і дзеячы Піліп Пестрак, Браніслаў Тарашкевіч, а ўжо ў наш час — бард Андрэй Мельнікаў, журналісты Павел Шарамет і Андрэй Пачобут, лідар „Маладога фронту” Зміцер Дашкевіч... У гэтых старажытных мурах мне давялося пабываць толькі раз і, дзякуй Богу, не ў зняволенні. Уражанне засталося досыць змрочнае. Таўшчэзныя высокія сцены з калючым дротам наверсе надзейна хаваюць ад гараджан чалавечыя прыніжэнне і трагедыі.

У Мінску сумна вядомая так званая „Валадарка” — турма, якая размешчана на вуліцы імя расійскага рэвалюцыянера Валадарскага. А між тым гэта колішні Пішчалаўскі замак — адзіны ў сваім родзе помнік рэтраспектыўна-замкавага стылю з элементамі іншых архітэктурных кірункаў. Тут былі зняволены інсургенты лістапада 1830 года, паўстанцы Каліноўскага і многія сённяшнія змагары за справядлівасць і праўду. Апошнія гадоў дзесяць вядуцца размовы пра перасяленне гэтай змрочнай турмы ў іншы будынак.

Хочацца сказаць тут яшчэ пра адзін сапраўдны шэдэўр архітэктурнай думкі — схаваны на поўначы Гродзеншчыны — блізка ад мяжы з Літвой, ад пункту памежнага пропуску ў Беняконях. Гэта дом-крэпасць у Гайцюнішках (націск у назве на трэцім складзе). Яшчэ з савецкага часу тут размешчана лякарня для людзей з псіхічнымі захворваннямі. У народзе гэтыя спецыялізаваныя ўстановы называюць „псіхушкамі”. У брэжнеўскі час такія лякарні выкарыстоўваліся ў тым ліку і для ўтаймавання іншадумцаў, дзе яны зазнавалі прымусовае „лячэнне”. Дом у Гайцюнішках, які сёння вам наўрад ці ўдасца сфатаграфаваць, зважаючы на яго пільную ахову, забудоўваўся ў пачатку XVII стагоддзя фламандскім архітэктарам Пятром Нонхартам. Ён быў праектантам цэлага шэрагу абарончых умацаванняў у ВКЛ таго часу. А дом у Гайцюнішках можна лічыць найстарэйшым жылым памяшканнем на тэрыторыі Беларусі, што захавалася да сённяшняга дня. Гайцюнішкі былі асабістай рэзідэнцыяй Нонхарта, а дапамагаў яму будавацца яго зямляк інжынер ван Дадэн. Так званы „замачак” пацярпеў у Паўночную вайну, але захаваўся да сёння амаль у нязменным выглядзе. Даследнікі архітэктуры зазначаюць, што стылёвыя аналагі „замачка” ў Гайцюнішках можна знайсці толькі на радзіме яго стваральнікаў у Фландрыі. Сядзіба пасля Нонхарта належала родам Храптовічаў, Рымшаў, Сакенаў, а пасля вайны сюды прыйшлі „трактарысты” і заснавалі школу механізатараў. Ад знішчэння гістарычны помнік ўратавала абласная лякарня, якая пераехала сюды ў шасцідзесятых гадах.

Помнікі архітэктуры, якія недаступныя сёння для культурніцкіх патрэб, у якіх сёння прымусова ўтрымліваюцца людзі, самі чакаюць вызвалення ад кратаў...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# У полі

Аднойчы, у прыгожы сонечны дзень, кажу жонцы:

— Пайду, па полі палажу.

— Ну, ідзі-ідзі, не будзеш мне перашкаджаць.

— А так ужо я табе перашкаджаю?

Ну, што: каму старэйшыя людзі патрэбныя? Яшчэ штосьці буркнуў, дзвярыма хлопнуў і падаўся на загарадную дарогу. Бо ў нас дарога, якая ляжыць за агародамі, завецца загароддзем. Выйшаўшы на яе пастаяў, падумаў. Варта пайсці на поле, таму што і на Юравы дзень не хадзілі, каравая не качалі. Не бачылі як і што расце, не чулі як птушкі спяваюць. Ці яны яшчэ ёсць? А прыгадаўшы як даўней каравай качалі, уголас засмяяўся. Аж падумаў сам сабе: вось пачуў бы хтось той смех, дык мог бы сказаць, што Грыша ўжо прыдурэў: сам да сябе смяецца. Толькі, на маё шчасце, нікога паблізу не было. Аднак пра гэта вам раскажу.

А было гэта тады, калі ў нас гэты абрад спраўлялі. Хадзілі на Юравы дзень і каравай на сваіх палетках качалі. Пайшла адна сям'я, пакачалі каравай па збожжы, паабедалі, пэўна па кілішачку перахілілі. Асталося дамоў ісці. Жонка ўсё пазбірала і мужыка просіць: хадзем дахаты. А яму дахаты няспешна. Пабачыў свата, што крыху далей свой каравай качаў; стаў чакаць яго.

— Ну, як хочаш, — жонка на канец сказала і дахаты пайшла.

А мужыку таго і трэба было, думае: мы сустрэнемся са сватам і далей яшчэ пакачаем. Так яно і атрымалася. Як яны пакачалі, то мужык ледзь дадому дакаціўся, і то пры падтрымцы свата. Доўга жонка яму дапякала, што і не рады быў сваім паступкам.

Аднак у нас гэты абычай трапіў у забыццё — каравая не качаюць. А як мужыкі хочуць выпіць, тады другога спосабу шукаюць. Толькі жонак цяпер складана на якую-колеч хітрасць набраць. Яны цяпер усё раскрыюць, да праўды дойдуць, нас абругаюць а потым абсмяюць.

Ну, даволі, давайце цяпер пра поле пагаворым, дзеля таго ж я і выйшаў. Вось іду загараднай дарогай і любуюся палечкам: *Полюшко-поле, полюшко, широко поле. Едут по полю герои, эх, да красной армии герои...* Толькі вось па гэтым полі не едуць салдаты-героі, толькі ходзяць чырвона-сінія машыны. Гэта сельскагаспадарчая тэхніка, якая з кожным годам удасканальваецца. А героямі становяцца хлопцы, што ёю кіруюць: сеюць, косяць, жнуць, хлеб збіраюць. Вось гэта героі. І хто менш мае полечка, таго цяпер не паважаюць.

Той час, калі таго, хто больш меў полечка ці кароў, кулаком лічылі, адышоў. Арыштоўвалі такіх, у турмы саджалі, ворагамі народа называлі. Лічыўся толькі такі селянін, што нямнога меў і чырвоную кніжачку атрымаў. Такіх хвалілі, узнагароды давалі, у прыклад іншым ставілі. Такі быў тады закон. А дзе быў сэнс, дзе праўда? Што мог даць краіне той, хто нічога не меў? Бедны сам беднаму не дапаможа. І аж столькі гадоў трэба было пражыць, каб да праўды дайсці. Каб на добрую дарогу выбрацца, па якой можна смела крочыць у будучыню. Не ўсё яшчэ дашліфавана ў нас, але думаю, што час усё наладзіць.

Можа хтосьці спытаць: „А чаму цяпер полечка шырэйшым зрабілася?". Не, яно якім было, такім і асталося, толькі час яго шырэйшым зрабіў. На тым адрэзку, дзе цяпер шагаю, было, для прыкладу, каля дваццаці вузкіх дзялянак. А паміж кожнаю дзялянкай была свая вузкая дарога, так званая мяжа, па якой мужыкі ездзілі ў поле ці назад. І то вузкім жалезняком, якога цягнуў мужыцкі конік. А хто багатым лічыўся, у таго два конікі было. А цяпер асталіся гаспадарыць тыя, што маюць больш полечка і лепшую гаспадарчую тэхніку. Конікаў ужо няма ды і жалезнякі таксама з моды выйшлі; іх час ужо прамінуў. Конікаў у Італію забралі: ці іх скансумавалі там, ці можа на пляжах адпыхаюць. А сяляне, якія за пенсію свае дзялянкі дзяржаве перадалі, ужо імі не карыстаюцца. Пазабіралі тыя дзялянкі, якія ў вёсцы лепшымі лічацца. Таму полечка тое самае, а дзялянак менш. Цяпер буйнейшыя гаспадары бізнесменамі — так іх назаву — завуцца; кулакі прапалі. Іх улады паважаюць, узнагароды ім даюць, медалі ім пры кожнай нагодзе прызначаюць, у прыклад іх ставяць. Яны дзяржаву ўзмацняюць, кормяць усю краіну. Кола ўлады павярнулася, толькі нас ніхто не можа павярнуць, каб мы памаладзелі. Пэўна на гэта яшчэ не пара, на гэта ўсё разумных няма.

Ну, пара ісці далей. І так хадзіў па полі некалькі гадзін. Сустрэў пяць кігавак, некалькі жаваранкаў пачуў, а шэрага зайчыка нідзе не ўбачыў. Даўней стралялі па іх, жывых лавілі, усё за граніцу. Валюта была важная, а не свая прырода. І што асталося? Амаль нічога. І штораз то менш будзе. Новая тэхніка і мінеральныя ўгнаенні ўсё знішчаць на палях нашых. Затое збожжа красуецца кругом, сцяной стаіць, як кажуць людзі. *Шумит, шумит пшеница золотая, и ей конца и края не видать.*

**Грыша МАРОЗ**

ЗАПРАШАЕМ! ЗАПРАШАЕМ!




# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — яўрэйскую пагаворку.

1. кароўнік = 5 _ 3 _ 2 _ 4 _ 16 _;
2. тэрыторыя зямной паверхні, у межах якой сустракаецца нейкі від біялагічных арганізмаў = 19 _ 21 _ 22 _ 11 _ 12 _;
3. сталіца над блакітным Дунаем = 10 _ 13 _ 23 _ 33 _;
4. партнёр бабы = 20 _ 18 _ 6 _ 1 _;
5. часовая стаянка у палатках = 28 _ 27 _ 26 _ 17 _ 32 _;
6. радавы шахматны баец = 14 _ 29 _ 15 _ 30 _ 31 _;
7. парадная зала для прыёму гасей у багатым доме = 7 _ 25 _ 8 _ 9 _ 24 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | | | | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 44 нумара**

Карачы, гарчыца, парог, парсек, вугаль, Варшава, Батый, альт, шрапнель, Нобель.

Рашэнне: **Стары чалавек бачыць горш але больш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 02.12 — 08.12

**(22.03. — 20.04.)** Не будзе табе хацецца штосьці змяняць. У фінансах час падвесці баланс. На працы канкурэнцыю разаб'еш у пух і прах. Усё ж неператамляйся, раскладзі сілы, запаволь тэмп. У пятніцу купляй абутак і адзенне.

**(21.04. — 21.05.)** На працы не думай пра свята, выкарыстай расслабленасць калег, пазмагайся за сваю пазіцыю. Ва ўсім захавай памяркоўнасць. Горача ў пачуццях. Фартуна цяпер табе спрыяе. Можа пра цябе пайсці плётка. У аўторак твае планы могуць змяніцца.

**(22.05. — 22.06.)** Чакае цябе фантастычная забава. Фартуна табе спрыяе, але прыйдзецца кантраляваць выдаткі. У кар'еры станеш перад важным выбарам. Магчымы новы занятак будзе патрабаваць ад цябе адрачэнняў. Не паддавайся хандры. У аўторак запрапануюць табе здзелку, ды яна акажацца быць не такой выгаднай для цябе.

**(23.06. — 23.07.)** 3-7.12. сваёй бліскучасцю выклічаш прызнанне і зайздрасць. Паставішся — стануць цябе цаніць. Непаразуменні ў пачуццях кончацца. Паявіцца шанц на лепшы быт, ды па дарозе да фартуны будзеш змушаны пераадолець шмат перашкод. Пільнуйся ад фальшывай інфармацыі.

**(24.07. — 23.08.)** Парабі найважнейшыя пакупкі. Зрабі дакладны план дзеянняў на ўвесь тыдзень. З лёгкасцю знойдзеш вырашэнне кожнай праблемы, не падвядзе цябе інтуіцыя. Займайся таксама грамадскімі справамі. Цяпер нічым не хваліся. Прайдзіся да лекара на прафілактычныя абследаванні.

**(24.08. — 23.09.)** Разгорнеш крылы ў фірме. У здароўі пазбягай канфліктаў, ды не душы ў сабе злосці, расслабся, навучыся вызваліць злосць з сябе (бі ў падушкі!). У пачуццях адчуеш, што цябе кахаюць. Чакаюць цябе новыя знаёмствы, таксама рамантычныя. Адчыні ўсе вокны і дзверы для новых магчымасцей.

**(24.09. — 23.10.)** У пачуццях час любоўных узлётаў і ўпадкаў. Не ідзі на павадку эмоцый і хвілінных прыхамацяў. Шанцуе ўсё ж табе ў грашах. У фірме трымай вуха на плётькі, але рабі сваё; не рассакрэчвай сваіх геніяльных задум.

**(24.10. — 22.11.)** Выгадней табе прытармазіць эмоцыі. Толькі тады заззяеш інтэлігентнасцю, знойдзеш вырашэнне праблемы, на якой іншыя паламалі зубы. У пачуццях не вяртайся да таго што было. З грашыма паваюеш за тое, што табе належыцца. Твае стаpанні не пойдуць дарам. Рызыкуй — не прайграеш. У аўторак не стой блізка маставой.

**(23.11. — 22.12.)** Да 5.12. дзейнічай асабліва адбумана, бо можаш шмат страціць. Падрасце тэмпература пачуццяў, а нават успыхнуць забытыя. Дома час ідыліі. Правярай цэны. На працы мяркуй, каму выяўляеш свае сакрэты. Не будзеш мець праблем з формай, толькі злезь з канапы! Серада — ідэальны час для пачатку новых праектаў.

**(23.12. — 20.01.)** Не пераацані сваіх магчымасцей! Пачынаецца для цябе час пажынання плёнаў. Людзі будуць вельмі любіць тваю кампанію. Набліжаецца фінансавы рост. Могуць прыдацца твае грамадскія кантакты, спатрэбіцца таксама дапамога збоку (не адмаўляйся). Магчыма трэба будзе змяніць коды доступаў да тваёй сакрэтнай інфармацыі.

**(21.01. — 19.02.)** У пачуццях слухай інтуіцыі. Трымайся здалёк ад людзей, якія хочуць штосьці табе ўціснуць, калі нават прадэманстраваць. У пакупках не азірайся на іншых. Важныя рашэнні адтэрмінуй на пасля, лепш цяпер не выступай публічна і нічога важнага не заяўляй.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш мець шчасце, знакамітае самаадчуванне і досціп. Ідзі ў бой, справішся прыпеваючы. Не перабольшвай сваіх праблем, усё вырашыцца само па сабе. У аўторак лепш адкладзі далёкія паездкі. У сераду не апячыся.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Па сямейнай традыцыі

**Аб перспектывах змагання з кантрабандай, асабліва цыгарэт без польскіх акцызных знакаў або без акцызы ўвогуле размаўлялі ў час канферэнцыі „Змаганне з кантрабандай — розныя перспектывы, супольная мэта” на юрыдычным факультэце Універсітэта ў Беластоку прадстаўнікі мытнай службы і навукоўцы ў большасці з гэтай вучэльні. Абмяркоўвалі таксама прычыны і цяперашні маштаб гэтай з’явы. Дайшлі да вываду, што, вядома, у аснове нелегальнага кантрабандысцкага промыслу ляжыць беднасць, а затым попыт на таннейшыя тавары, але таксама і... сямейныя традыцыі.**





Згодна з інфармацыяй Евы Семеняка, эксперта Мытнай палаты ў Беластоку, колькасць перахопленых на тэрыторыі Падляшша цыгарэт з кантрабанды сёлета ўжо большая чым за цэлы мінулы год. Да верасня сарвана была нелегальная кантрабанда каля 98 мільёнаў штук гэтых тытунёвых вырабаў коштам у амаль 49 мільёнаў злотых. У час найбольшага сёлетнагя правалу спынілі кантрабанду 600 тысяч пачкаў цыгарэт, непазначаных ніякай бандэроллю, вартых каля 6 мільёнаў злотых. Мытнікі дасюль знаходзілі цыгарэты ў самых розных месцах, нават у торце, тэлевізары, кніжцы. Апрача кантрабанды цыгарэт і алкагольных вырабаў падляшскія мытнікі спынялі галоўным чынам лякарствы, падробленыя тавары, помнікі, у тым ліку шмат ікон, экзатычных жывёл. Адным з найбольшых выяўленняў у гісторыі мытнай службы было спыненне падляшскімі функцыянерамі 230 тысяч штук купюр з Кыргызстана, Узбекістана, Таджыкістана, Кубы і Беларусі ды Украіны. Апрача таго сёлета падляшскія мытнікі супольна з паліцыянтамі з Ваяводскай камендатуры паліцыі ў Беластоку ў час супольных дзеянняў аднаразова перанялі каля 7,5 кг марыхуаны вартай на рынку 225 тысяч зл. Да 15 верасня мытнікі нашага рэгіёна ўзбудзілі 2814 крымінальных спраў аб падаткавым парушэнні ды выдалі штрафы на суму 9 мільёнаў 400 тысяч зл. Паводле рапарта Сусветнай мытнай арганізацыі ды Еўрапейскага бюро па барацьбе з махлярствам, Польшча лічыцца сярод лідараў у перамаганні нелегальнага абароту тытунёвымі вырабамі.

Малодшы мытны інспектар Рэмігіюш Возняк, дырэктар Мытнай палаты ў Белай-Падляшскай у кулуарнай размове з журналістамі інфармаваў:

— Падляшская мытная служба тры гады таму ўвяла навінку, датычную сістэмы кантролю. Польская мытная сістэма ў цяперашні час абапіраецца на тры лініі кантролю. Першая гэта мытны аддзел, значыць, функцыянеры, якія прымаюць заявы ў селектыўны спосаб. Другая лінія гэта памежныя рэфераты змагання са злачыннасцю. Трэцяя — мабільныя групы. Гэтая сістэма здаецца быць вельмі шчыльнай. З аднаго боку хочам мець прахадныя пагранпераходы, з другога — не хочам быць сляпымі на з’яву кантрабанды. 12,5 млн. пачкаў цыгарэт выяўленых на тэрыторыі Мытнай палаты ў Белай-Падляшскай гэта вялікі поспех. Наша Палата — на першым месцы па выяўлянні кантрабанды нелегальных цыгарэт у Еўропе.

Дадаў:

— Прыкмячаем растучую тэндэнцыю, калі гаворка пра кантрабанду цыгарэт на пагранпераходах з Беларуссю, на 30-40 працэнтаў у параўнанні з мінулымі гадамі. Спрычыняецца да гэтага розніца ў цэнах. На ўкраінскім адрэзку сёлета выявілі мы менш цыгарэт чым раней. Прытым ва Украіне былі павышаны цэны на цыгарэты, а ў Беларусі — не былі.

Прэс-сакратар Мытнай палаты ў Беластоку Мацей Чарнэцкі пры нагодзе канферэнцыі спаслаўся на нашу просьбу на апавяданні з кніжкі „Занатоўкі кантрабандыста” Віктара Сазонава:

— Не толькі з гэтай кнігі, але перш за ўсё з нашага досведу вынікае, што не ўдаецца нам выяўляць усяго. Кантрабандысты настолькі вынаходлівыя, што могуць хаваць тавар у вельмі нетыповых месцах: мячыках для гульні ці ў хлебе. На пагранпераходах таксама ў будучыні будзе працягвацца своеасаблівая вайна паміж кантрабандыстамі і функцыянерамі мытнай службы. Як на кожнай вайне адбываюцца баі. У нашых баях вельмі шматлікая армія кантрабандыстаў сутыкаецца з нашмат менш шматлікай, але лепш абсталяванай арміяй мытнікаў. Лікі сведчаць аб тым, што шмат з гэтых бітваў мытная служба выйграе. Псіхалагічны партрэт кантрабандыста не ўплывае на тое, ці мы яго пакараем, ці не. Кожная асоба, якая займаецца кантрабандай, мусіць прымаць пад увагу карныя санкцыі.

Намеснік міністра ў Міністэрстве фінансаў і шэф Мытнай службы надінспектар Яцак Капіца пераконваў:

— Статыстычныя паказальнікі паказваюць, што малы памежны рух і тавараабмен паміж Польшчай і суседнімі краінамі эканамічна карысныя для нашай краіны, таму што нашы госці пакідаюць у нас у дзесяць раз больш грошай на пакупках, чым мы ў іх. Стараемся балансаваць, каб межы добра абараняць ад кантрабанды, ды адначасова не перашкаджаць турызму ці таварнаму руху ў рамках вызначаных лімітаў. Гэта цяжкае заданне.

На пытанне „Нівы” аб выніку ўвядзення малога памежнага руху паміж Польшчай і Беларуссю (надалей невядома, калі гэта наступіць) заявіў:

— Кожная дадатковая палёгка ў памежным руху адпаведная, калі яна эканамічна карысная для нашай краіны. Мусім з імі спраўляцца, калі служаць культурнаму, таварнаму, гаспадарчаму абмену. Як паказвае досвед Украіны ці Расіі, малы памежны рух карысны для нашай краіны. У сувязі з гэтым разлічваем на тое, што і малы памежны рух з Беларуссю прынясе нам карысць.

Аб праблемах Мытнай службы сказаў нам:

— Пасля змен законапраекта аб памежнай службе і акцызным падатку не бачу ў гэты момант нейкіх большых юрыдычных праблем. Змагаемся галоўным чынам з арганізацыйнымі зменамі. Павелічэнне таварнага руху надалей патрабуе ад нас павелічэння сіл і сродкаў на мяжы, што не ёсць лёгкай справай, таму што мусім пераносіць іх з захаду на ўсход і адначасова праводзіць кантролі ўнутры краіны, каб не блакаваць руху на мяжы. Мусім быць больш засяроджанымі на кантролях на дарогах і на кірмашах. Паступовая электранізацыя і змена транзітных шляхоў уплывае на тое, што мусім адпаведна канцэнтраваць сілы і сродкі. Калі маем дачыненне з развіццём пагранпераходаў у Палаўцах ці ў Семяноўцы — дык там будзем патрабаваць больш людзей.

У Польшчы працуе 14,5 тысячы мытнікаў. З году ў год мае іх быць менш, аднак тым, што застануцца, будуць павялічаны зарплаты.

Адкрываючы канферэнцыю рэктар Універсітэта ў Беластоку праф. Леанард Этэль (былы дэкан юрыдычнага факультэта) заўважыў:

— Кантрабанда заўсёды была, ёсць і будзе, калі будуць адрозненні ў цэнах тавараў, асабліва, напрыклад, цыгарэт.

— Дзеянні мытнай службы не засяроджваюцца на адплаце, але на кампенсацыі грамадству страт звязаных з кантрабандай і імкненні да пазбягання такога тыпу злачынстваў. Неабходнае фармаванне ў грамадстве пазіцыі неадабрання для такога тыпу паводзін.

Міраслаў Сянкевіч, шэф Мытнай палаты ў Беластоку напаўсур’ёзна спаслаўся на змаганне з кантрабандыстамі на польска-беларускай мяжы:

— Пасля шматлікіх стаpанняў ёсць надзея, што будзе рэгулярны непасрэдны чыгуначны маршрут Гродна — Кузніца-Беластоцкая — Беласток. Мы, аднак, не ў змозе зачыніць фабрыку цыгарэт у Гродне.

У сваю чаргу ў сваім інаўгуруючым канферэнцыю выступленні прафесар Веслаў Чыжовіч з Галоўнай гандлёвай школы ў Варшаве, старшыня Кансультацыйнай рады мытнай службы адзначыў:

— Этас кантрабандыста адабраецца грамадствам так доўга, адкуль існуюць межы. З’ява кантрабанды развінулася ў познім сярэднявеччы, калі паявіліся мытныя дарогі, узніклыя з-за патрэб фіскальных уладароў.

На яго думку, ёсць чатыры прычыны звязаныя з кантрабандай, асабліва цыгарэт: біялагічна-псіхалагічная (стымулятары выклікаюць залежнасць), грамадска-эканамічная (беднасць; вялікія прыбыткі вытворцаў і гандляроў, папулярнасць кантрабандных тавараў і іх значна ніжэйшая цана чым легальных), арганізацыйна-ўстаноўныя (глабалізацыя і рэгіяналізацыя сусветнай гаспадаркі і спадарожнай ёй арганізаванай злачыннасці) і юрыдычна-фіскальныя (забарона курэння, павышанне ўзросту купляючых; падаткі на тытунёвыя і алкагольныя вырабы сягаюць у Еўропе 50-60 працэнтаў раздробнага кошту, а ёсць краіны, дзе яны налічваюць нават 70-80 працэнтаў).

Прафесар Чыжовіч успамінаў цыгарэтную фабрыку „Нёман” у Гродне, якая лічыцца адным з чатырох найбольшых у свеце тытунёвых канцэрнаў:

— Частка з вырабляных там цыгарэт трапляе ў кантрабанду.

Адной з найважнейшых, несумненна, прычын кантрабанды і зацікаўлення таварамі з яе з’яўляеца іх цана. Як сказаў праф. Чыжовіч, на Усходзе пачак цыгарэт каштуе ад 20 еўрацэнтаў да 2 еўра, а на Захадзе ў межах 8-11 еўра:

— Гэта выклікае незвычайныя прыбыткі вытворцаў і гандляроў пры іх адноснай беспакаранасці. Дакуль не вырашым праблемы беднасці і не зменім паўсюднай свядомасці, цяжка будзе змагацца з кантрабандай.

У канферэнцыйнай частцы Рэмігіюш Возняк звярнуў увагу:

— Згодна з апытаннямі, праведзенымі ў мінулым годзе, найбольшы адсотак на прычыну кантрабанды паказвае сямейныя традыцыі. Сярод кантрабандыстаў фармуюцца паводзіны так, як у прафесійных групах, напрыклад, у сем’ях лекараў. Дзіця, якое выхоўваецца ў лекарскай сям’і, часта становіцца таксама лекарам. Наша адукацыйная прафілактыка павінна ахапіць таксама гэты абшар.

Доктар Магдалена Пэркоўская з юрыдычнага факультэта УуБ распавядала аб характарыстыцы злачынцаў-кантрабандыстаў на падставе профілю, які стварыла на аснове актаў крымінальных спраў. Расказала „Ніве”:

— Кантрабандысты гэта ў большасці беспрацоўныя асобы, якія дапускаюцца кантрабанды як заробку. Гэта лёгкі і хуткі заробак, асабліва для асоб пражываючых у памежных рэгіёнах. Траплялася, што сярод кантрабандыстаў ёсць асобы якія выйшлі замуж толькі для таго, каб памяняць прозвішча, бо іхняе было ахопленае забаронай уезду з-за іхняй кантрабандысцкай дзейнасці.

Згодна з навейшымі цэнамі на тытунёвым рынку, у Польшчы сярэдняя цана пачка цыгарэт гэта 10,50 зл., затое ў нелегальным абароце — 6-7 зл. (у Беластоку найчасцей 6 або 7 зл.). У Польшчы найбольш нелегальных цыгарэт паходзіць з Беларусі — 48,7% нелегальнага рынку (з Украіны 21%, з Расіі 12,4%). Паводле ацэнак у 2014 г. шэры рынак без рашучага ўмяшання Мытнай службы можа запоўніць у Польшчы 22% тытунёвага рынку (сёлета пасля інтэрвенцый — 14,5%), а страты для бюджэту могуць перавысіць 3,3 мільярда злотых.

ISSN 0546-1960